"Народную Волю" выдаюць свабодныя журналісты для свабодных людзей.

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
*Якуб КОЛАС*

# Народная Воля

**№ 57 (4309)**

20 ліпеня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

СИТУАЦИЯ

# «На одной кухне не может быть двух хозяек»

*Как на Оршанском авиаремонтном заводе комментируют слова президента о том, что с 11 июля "это государственное предприятие".*



Предысторию перевода ОАО «Оршанский авиаремонтный завод» в собственность государства все знают. 11 июля, посещая завод, **Александр Лукашенко** заявил: *«Собственника уже здесь нет (речь об акционерах ПАО «Мотор Сич» (Украина) и белорусского ЗАО «Системы инвестиций и инноваций». –* **Ред.***). Все собственники, которые здесь были, отказались сами от этого завода. Поэтому действуйте. Это государственное предприятие с сегодняшнего дня»*.

Один небезызвестный экономист прокомментировал эту новость так: *«Если это не национализация, то что это? Александр Лукашенко утверждает, что у завода нет собственника. Это как? Покажите интервью с Вячеславом Богуслаевым, в котором он бы публично заявил о том, что у него нет претензий ни к Оршанскому авиаремонтному заводу и его акционерам, ни к белорусскому государству. Его требования и предложения удовлетворены. Но В. Богуслаев недоумевает и возмущается. Его как стратегического инвестора и собственника 59,5% акций Оршанского завода просто выкинули на улицу. В бизнесе это называется рейдерским захватом»*.

Позже в СМИ глава украинской «Мотор-Сич» **Вячеслав Богуслаев** признался, что акции завода у него никто не отбирал, он продал их белорусским властям, до 1 августа с ним должны рассчитаться. Но не стал называть сумму сделки, ссылаясь на коммерческую тайну. Правда, одновременно он заявил, что выход из состава акционеров Оршанского авиаремонтного завода принес ему потери на сумму более десяти миллионов долларов.

Вообще, в эти дни из уст Вячеслава Богуслаева слышалось много упреков в адрес белорусской стороны, из которых можно сделать выводы, что из бизнес-проекта в Беларуси он вышел не по доброй воле. Богуслаев заявил, что на него давили: Генпрокуратура Беларуси завела уголовное дело в отношении бывшего генерального директора завода и должностных лиц «Мотор Сич» за превышение служебных полномочий, повлекших тяжкие последствия, а именно ущерб заводу в особо крупном размере. *«Дали команду прокуратуре об уголовном деле на ровном месте»*, – возмущался украинский бизнесмен. Также Богуслаев заявил и о том, что белорусские власти воспользовались тем, что у него возник конфликт с его компаньоном, акционером **Александром Садовым**. *«Мы выполнили свою часть на 110%, на 114%, а он ничего не вкладывал. У него, я так предполагаю, были какие-то друзья наверху, поэтому он так вел себя. У нас был конфликт, и они этот конфликт использовали. С властью трудно спорить. С системой бороться не надо – пострадаешь»*, – сказал президент «Мотор Сич».

Справедливости ради стоит отметить, что убытки Оршанского авиаремонтного завода исчисляются миллионами рублей. Согласно официальной отчетности предприятия, к концу 2017 года убытки завода составили 5,5 миллиона рублей, или более 2,5 миллиона долларов по официальному курсу. Хотя в то же время и в 2017-м, и 2016-м завод сработал с прибылью, хоть и крохотной.

Заместитель генерального директора Оршанского авиаремонтного завода по идеологии **Василий Чиркунов** также говорит, что последнее время дела на предприятии шли неплохо. И не исключает, что причиной национализации стало непонимание между акционерами. *«На одной кухне не может быть двух хозяек»*, – говорит Чиркунов.

– Завод нормально работает, никого не уволили, не сократили, зарплату люди получают, последний раз только на один день задержали, – замечает он. – У нас никаких сложностей нет. Есть сложности у акционеров, спрашивайте у них, почему так произошло.

**– А на каком уровне сейчас решение вопроса о национализации?**

– Не могу ответить, нас в известность не ставят. Ждем протокол поручений президента, он сейчас готовится. Де-юро мы пока не можем быть государственным предприятием, потому что есть закон.

**– Василий Иванович, а какая средняя зарплата на предприятии?**

– 612 рублей. Для сельской местности, думаю, это неплохо.

*(Окончание на 2-й стр.)*

SOS!

*У 2001 годзе сярэдняя пенсія ў Беларусі складала 45% ад сярэдняй зарплаты. А сёння, у 2018 годзе, тыя, хто знаходзіцца на заслужаным адпачынку, маюць толькі 36% ад сярэдняй зарплаты.*

*Няўжо старэйшае пакаленне не заслужыла лепшай долі?*

У НАС І Ў ІХ

## Не дацягнемся нават да казахскай пенсіі...

З 1 жніўня ў Беларусі павысіцца працоўныя пенсіі ў сярэднім на 10%.

Сёння сярэдняя працоўная пенсія па ўзросце складае 340,53 рубля. То бок, з 1 жніўня яна вырасце на 34 рублі і складзе прыблізна 374,53. Па афіцыйным курсе гэта ўсяго 162 еўра. Будучае жнівеньскае павышэнне нават не дазволіць сярэдняй пенсіі беларуса зраўняцца з адпаведнымі пенсіямі, якія ёсць зараз у краінах – партнёрах Беларусі па Мытным саюзе – у Расіі і Казахстане, не кажучы пра суседзяў, якія ўваходзяць у Еўрапейскі Саюз. Якія там цяпер пенсіі?

**Памер сярэдняй працоўнай пенсіі па ўзросце (у еўра):**

**Польшча** – 503
**Эстонія** – 417
**Латвія** – 335
**Літва** – 332
**Расія** – 186
**Казахстан** – 180
**Беларусь** – 162 (будзе з 1 жніўня)

Выгадна пенсіі беларусаў адрозніваюцца толькі ад пенсій украінцаў. Там сёння памер сярэдняй працоўнай пенсіі па ўзросце складае ўсяго каля 85 еўра. Але і цэны там ніжэйшыя.

АКЦЫЯ




## Спынілі...

Як вядома, некалькі дзён таму дэмакратычныя актывісты прынялі рашэнне пікетаваць усе гандлёвыя і забаўляльныя кропкі бізнесмена Леаніда Зайдэса, які разам са сваімі кампаньёнамі адкрыў рэстаран у непасрэднай блізкасці ад мемарыяльных Курапат.

Учора Вольга Мікалайчык, Леанід Кулакоў і Мая Навумава ладзілі акцыю ў Мінску ля рэстарана "Гранд Кушавель", які належыць Л.Зайдэсу. Не прайшло і некалькі хвілін, як яны былі затрыманы амапаўцамі і дастаўлены ў пастарунак.

СЛЫШАЛИ?

## Прислали из России

Председателем Правления ОАО «БПС-Сбербанк» избран **Игорь Меркулов**, который ранее занимал должность заместителя председателя Западно-Сибирского банка ПАО Сбербанк в Омске.

Возглавлявший ранее филиал российского банка в Беларуси **Сергей Инюшин назначен торговым представителем России в Китае.**

Наблюдательный совет БПС-Сбербанка возглавляет экс-глава Нацбанка Беларуси **Петр Прокопович**. Сейчас Прокопович – член постоянно действующей рабочей группы при Администрации президента. Также в наблюдательном совете БПС-Сбербанка еще два представителя Беларуси – **Алексей Афанасьев** – начальник главного финансового управления Мингорисполкома и **Алексей Васильев** – первый заместитель председателя Госкомитета по имуществу.

**Анна ГОНЧАРИК.**

ХТО ЁСЦЬ ХТО

## Вярнуўся праз 22 гады

*Учора стала вядома, што новым галоўным трэнерам зборнай Беларусі па хакеі прызначаны Андрэй Сідарэнка.*

У якасці трэнера ён ужо працаваў з беларускай нацыянальнай камандай з 1994-га па 1996 год.

Нагадаем, што ў гэтым годзе зборная Беларусі вылецела з элітнага дывізіёна, а яе галоўны трэнер Дэйв Льюіс пакінуў каманду яшчэ падчас чэмпіянату свету.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ТРАГЕДЫЯ

## Смерць у гарах

"Сышлі на горныя маршруты за шчасцем..." – *адна з апошніх фраз допісу, які размешчаны на старонцы ў сацыяльнай сетцы беларускага альпініста* **Валерыя Меламеда***. Ён загінуў, спускаючыся з гары Укю, што ў Кабардзіна-Балкарыі.*



Да гэтага ўзыходжання група беларускіх альпіністаў пачала рыхтавацца за некалькі месяцаў. 55-гадовы гамяльчанін Валерый Меламед быў адным з яе каардынатараў. Ён вопытны спартсмен – кандыдат у майстры спорту, інструктар гомельскага альпіцкага клуба "Спартак".

Менавіта ў клубе, які працуе на базе Гомельскага абласнога цэнтра турызму і краязнаўства дзяцей і моладзі, напрыканцы чэрвеня адбыўся апошні арганізацыйны сход, які тычыўся будучай паездкі.

У сваю апошнюю ў жыцці паездку Валерый Меламед адправіўся 8 ліпеня цягніком Гомель – Мінеральныя Воды. Адтуль спартсмены накіраваліся ў альпіністскі лагер "Безенгі".

Узыходжанне групы, у якую ўваходзіў Валерый Меламед, адносілася да другой катэгорыі складанасці. Да гэтай катэгорыі адносяцца горныя снежна-лёдавыя ўчасткі круцізной 25–30 градусаў і некрутыя скалы. Для такога вопытнага альпініста, як Валерый Меламед, паход не абяцаў складанасцяў. І ўсё было добра – гару Укю вышынёй 4300 метраў беларус пакарыў. Трагедыя здарылася падчас спуску – на вышыні 4100 метраў Валерый сарваўся і паляцеў у пропасць. Што стала прычынай трагедыі? Па адной інфармацыі Валерый трапіў пад горны камняпад, але дакладна расказаць, што стала з альпіністам, змогуць яго напарнікі, якія ў хуткім часе вернуцца ў Беларусь.

Білеты ў зваротны шлях у членаў групы Меламеда былі куплены на 26 ліпеня.

Пошукавая аперацыя, у якой удзельнічалі ратавальнікі з Міністэрства надзвычайных спраў Расіі, распачалася 17 ліпеня. Пошукі былі цяжкія – ратавальнікам перашкаджаў туман.

Цела беларускага альпініста знайшлі. Для яго транспарціроўкі на зямлю быў выкліканы верталёт. Чакалася, што аперацыя будзе закончана ў чацвер вечарам, пасля чаго будзе вырашацца пытанне аб транспарціроўцы цела загінуўшага спартсмена ў родны Гомель.

Тут жыве сям'я Валерыя Меламеда – жонка Таццяна і дзве дачкі – Ксенія і Аляксандра.

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

ДУХОЎНЫ СКАРБ

## Адкапанае славянскае Крэва

Дзясяткі валанцёраў ад пачатку ліпеня працуюць у Крэве, на археалагічных раскопках на тэрыторыі мясцовага Гарадзішча, якое знаходзіцца на адлегласці двух кіламетраў ад вядомага замка XIV стагоддзя. Па словах кіраўніка раскопак, гісторыка **Алега Дзярновіча**, фактычна адкапаны горад X стагоддзя – старажытнае Крэва. Менавіта ў тым, яшчэ язычніцкім, Крэве, вялікі князь Ягайла пабудаваў касцёл, каб хрысціць язычнікаў. На раскопках знойдзены ювелірныя ўпрыгажэнні, фрагменты бранзалетаў, шкляныя пацеркі, рэдкая манета бракбрат, якая датуецца другой паловай XIII стагоддзя. Траплялі такія грошы на беларускія землі з прускіх гарадоў. Знойдзены ў Крэве керамічны посуд вызначаюць як славянскі. Доўгі час лічылася, што ў старажытным Крэве жылі балты-язычнікі.

СТОП-КАДР



**На здымку – міністр замежных спраў Уладзімір Макей з Надзвычайнымі і Паўнамоцнымі пасламі Рэспублікі Беларусь у замежных краінах і кіраўнікамі консульскіх устаноў. Некалькі дзён яны, прымаючы ўдзел у спецыяльным семінары, калектыўна ламалі галаву над тым, як павысіць эфектыўнасць сваёй работы, у першую чаргу ў той частцы, якая звязана са знешнеэканамічнай дзейнасцю краіны, з нарошчваннем нашага экспарту тавараў і паслуг за мяжу.**

**Што і казаць, сур'ёзнае выпрабаванне чакае беларускіх дыпламатаў. Вырашэнне задач, ускладзеных на іх, у многім залежыць ад палітычнага курсу беларускіх улад.**

БОЛЬ

# Два гады пасля забойства Шарамета: следства працягваецца, але вынікаў няма


svaboda.org (RFE/RL)

20 ліпеня спаўняецца два гады з дня гібелі ў Кіеве журналіста Паўла Шарамета, які для нас, беларусаў, яго землякоў, з'яўляецца знакавай асобай. Два гады расследавання не далі вынікаў: няма ні падазроных, ні зачэпак, ні доказаў.

Следчая група разглядае 5 весій забойства Паўла Шарамета: злачынства ажыццёўлена за прафесійную дзейнасць у Расіі і Беларусі; памылка ў аб'екце злачынства (рыхтавалася забойства ўладальніка выдання «Украінская праўда» Алены Прытулы); прафесійная дзейнасць ва Украіне – за крытычныя публікацыі ў выданні «Украінская праўда» і на радыё «Вести»; намаганні ў дэстабілізацыі сітуацыі ў дзяржаве; канфліктныя сітуацыі ў асабістым жыцці Паўла Шарамета – сямейнае, камерцыйнае і фінансавае становішча.

## Забойства гучнае, расследаванне ціхае

З цягам часу аб смерці Шарамета, якую ўкраінскія ўлады кваліфікуюць як наўмыснае забойства, згадваюць усё радзей – і журналісты, і праваахоўныя органы. Эфектыўнасці следства не дапамог нават статус «сакрэтнасці» справы. Пэўны час адзінай крыніцай інфармацыі аб ходзе расследавання быў дзяржаўны рэестр судовых рашэнняў, але пасля адпаведнага распараджэння міністра ўнутраных спраў Арсена Авакава ў ім забаранілі публікаваць усе дакументы, што маюць дачыненне да гэтай справы.

Расследаваннем займаецца аб'яднаная следчая група трох праваахоўных органаў – Нацыянальнай паліцыі, Генеральнай пракуратуры і Службы бяспекі Украіны. Да яе працы так і не далучылі замежнага следчага, як прапанавалі журналісты, хоць саму ідэю публічна падтрымлівалі ўсе – ад прэзідэнта Украіны да кіраўніцтва праваахоўных органаў.

«Я не следчы. Я павінен стварыць умовы для расследавання», – так гаварыў Парашэнка пра справу Шарамета.

Заклапочаныя не толькі адсутнасцю навін, але і непразрыстасцю следства, журналісты ў сакавіку па выніках публічнай дыскусіі «Пагрозы свабодзе слова ва Украіне», арганізаванай Нацыянальным саюзам журналістаў Украіны і Міжнароднай федэрацыяй журналістаў, ухвалілі рэзалюцыю, у якой патрабавалі ад прэзідэнта Пятра Парашэнкі, Вярхоўнай Рады, СБУ, ГПУ і МУС справаздачы аб расследаванні забойства Паўла Шарамета. Прайшло чатыры месяцы, але і гэты заклік пакуль застаецца без адказу.

## Пяць версій, уключна з «расійскай»

На пачатку года прадстаўнік Службы бяспекі Украіны заявіў, што следчыя дагэтуль фарміруюць доказную базу, але раскрыццю забойства перашкаджаюць «абставіны». Пазней спікер Міністэрства ўнутраных спраў Арцём Шаўчэнка ўдакладніў, пра якія абставіны гаворка: расійскае грамадзянства Паўла Шарамета і ягоныя актыўныя кантакты менавіта на тэрыторыі Расіі незадоўга да гібелі.

## Справу аб забойстве Шарамета засакрэцілі

«Немагчыма правесці следчыя дзеянні на тэрыторыі дзяржавы-агрэсара, вызначыць тых, хто можа быць датычны да злачынства або дапытаць іх – гэта істотна ўскладняе расследаванне», – адзначыў Шаўчэнка.

У маі ў эфіры аднаго з украінскіх тэлеканалаў генеральны пракурор Украіны Юрый Луцэнка таксама канстатаваў:

«На жаль, следства не мае сур'ёзнага прасоўвання ні па адной з версій, якія цяпер старанна адпрацоўваюцца». І дадаў, што з аналагічнымі праблемамі сутыкнуліся ў расследаванні і іншых рэзанансных забойстваў – прэс-афіцэра батальёна імя Джахара Дудаева Аміны Акуевай і шэрагу прадстаўнікоў Службы бяспекі Украіны.

Маці Паўла Шарамета: «У мяне ўжо няма асаблівай надзеі на правасуддзе Украіны».

## Хаваць справу рана

Былы намеснік генеральнага пракурора Украіны Мікола Галомша, у часы якога следства выйшла на выканаўцу забойства ўкраінскага журналіста Георгія Гангадзэ Аляксея Пукача, якога і арыштавалі, мяркуе, што следчыя змарнавалі час у першыя гадзіны і дні пасля забойства Паўла Шарамета.

«Пацвярджэннем гэтага ёсць тое, што на першапачатковым этапе расследавання былі страчаны магчымасці – дасканала не знялі аператыўную інфармацыю, яна не была прааналізавана, не была выкарыстана; па гарачых слядах не перакрылі забойцам магчымасць замесці сляды, уцячы і схавацца. Тады нават не прайшлі па маршруце і не пераглядзелі відэа. А цяпер даганяць вельмі цяжка. Забойства ж учынілі не прафаны ці выпадковыя людзі. Яно рыхтавалася – за ім (Шараметам) сачылі, хадзілі ягоным маршрутам, цікавіліся», – адзначыў ён.

Паводле яго, аб праблемах афіцыйнага следства сведчыць і журналісцкае расследаванне, якое прадэманстравала, што можна было зрабіць за кароткі прамежак часу.

Мікола Галомша перакананы, што забойства Паўла Шарамета ўчынілі «прафесіяналы» з дапамогай спецслужб. «Такія рэзанансныя забойствы рыхтуюцца такім чынам, каб следчы аддаляўся ад канкрэтнага да абстрактнага, а ў следства было заўсёды шмат ускосных доказаў і інфармацыі. Іх вельмі цяжка расследаваць, нават калі зыходзіць з таго, што следства вядуць прафесійныя кадры», – расказаў пракурор.

А ў нас праблема яшчэ і ў тым, што знішчылі крыміналістыку, спецыялісты, якія былі здольны расследаваць такія злачынствы, апынуліся незапатрабаванымі ў новастворыных (пасля рэформы праваахоўных органаў. – **РС**.) следчых групах, якія мелі патрэбу ў прафесійных кадрах, – перакананы Мікола Галомша. Калі працуюць сур'ёзныя следчыя, то, відавочна, ужо павінны былі сказаць пра нейкія вынікі...

У той жа час Мікола Галомша дадаў, што «хаваць» справу рана: «Я лічу, што перспектыва заўсёды ёсць. Але тады, калі ёсць прафесійныя кадры, ёсць жаданне і досвед».

## Калегі чакаюць праўды

За дзень да трагічнай гібелі Павел Шарамет абмяркоўваў у студыі «Грамадскага радыё» тэму нацыянальнай ідэнтыфікацыі ў Беларусі і ва Украіне. Адзін з вядучых той праграмы Андрэй Кулікоў расказваў, што дыскусію яны прадоўжылі яшчэ і пасля эфіру. Але тады ён не заўважыў у Паўла Шарамета ніякай заклапочанасці сваёй уласнай бяспекай. Андрэй Кулікоў пераконвае: памяць з'яўляецца адной з гарантый таго, што справу не пахаваюць у следчых кабінетах.

**Алена ЛІЦВІНАВА.**
*(Радыё Свабода.)*

ЕСТЬ ВОПРОС!

# Что не поделили российские и белорусские компаньоны?

Не утихают скандалы вокруг одного из крупнейших производителей комбайнов на территории РФ: российско-белорусского предприятия ЗАО СП «Брянсксельмаш».

## Компаньон попался с поличным

Напомним, что недавно Следственный комитет Беларуси сообщил о задержании генерального директора «Брянсксельмаша» **Валерия Сулеева**. Как следует из заявления СК РБ, 54-летний руководитель брянского предприятия (он является гражданином Беларуси) попался с поличным при передаче взятки в размере 1 млн российских рублей заместителю генерального директора и начальнику одного из отделов Гомельского завода литья и нормалей. Последние, по информации белорусских правоохранителей, выступали инициаторами закупки комплектующих для нужд этого предприятия.

Гомельский завод литья и нормалей, так же, как и «Брянсксельмаш», являются структурными единицами крупнейшего сельхозмашиностроительного холдинга Беларуси – «Гомсельмаша». В частности, «Брянсксельмаш» с 2005 года занимается производством по лицензии и реализацией сельскохозяйственной техники на российском рынке. С 2016 года она продвигается в России под брендом «Десна-Полесье».

Холдингу «Гомсельмаш» принадлежит 51% доли в совместном предприятии, которое входит в число лидеров на комбайновом рынке России. Остальные его акции распределены между российскими партнерами. В частности, 47,34% акций владеет бывший заместитель руководителя администрации Брянска **Леонид Гранкин,** 1,66% акций принадлежат возглавляемой им компании «Брянсксельхозмаш».

## Раздрай в рядах акционеров

Однако, как свидетельствуют материалы дела, которое находится на рассмотрении Арбитражного суда Брянской области, между партнерами возникли разногласия.

Компания «Брянсксельхозмаш» обратилась с иском к «Гомсельмашу». Российское предприятие пытается через суд обязать гомельский холдинг продать 2% акций ЗАО СП «Брянсксельмаш» за 602 тысячи российских рублей.

В случае удовлетворения этого иска Леонид Гранкин и его партнеры получат контрольный пакет брянского производителя комбайнов.

Арбитражный суд Брянской области пока не принял решение.

По мнению суда, само заявление было подано с «нарушением требований» нескольких статей российского арбитражного процессуального кодекса. В определении, в частности, указано, что истец в числе прочего не предоставил суду «доказательств, подтверждающих намерения ответчика – ОАО «Гомсельмаш» продать акции ЗАО СП «Брянсксельмаш» третьему лицу».

Однако суд предоставил истцу время на исправление ошибок и готов ожидать нового заявления до 20 июля 2018 года.

**Zautra.by**

НЕДВИЖИМОСТЬ

# В каком банке выгоднее получить кредит на покупку жилья?

Более 20 банков страны предлагают белорусам кредиты на строительство жилья в новостройке сроком на 15 лет в национальной валюте. Средняя реальная ставка по таким кредитам составляет 14,15% годовых. Общее количество ипотечных программ на указанный срок – 11.

Самый доступный кредит на покупку жилья в новостройке предлагает Банк БелВЭБ – 11,00% реальных годовых по программе «Дружная будоўля». Аналитики портала Bankchart отобрали по одному лучшему предложению от банка и составили ТОП-6 лучших кредитных программ на покупку жилья в новостройке на 15 лет:

| № | Банк | Реальная ставка, % | Условия |
|---|---|---|---|
| 1 | Банк БелВЭБ «Дружная будоўля» | 11 | Ставка: 11,00% Разовая комиссия: нет Ежем. комиссия: нет Аванс: от 20,00% |
| 2 | Беларусбанк Кредит на строительство жилья по системе стройсбережений | 11,5 | Ставка: 11,50% Разовая комиссия: нет Ежем. комиссия: нет Аванс: от 25,00% |
| 3 | Приорбанк Строительство под залог | 14 | Ставка: 14,00% Разовая комиссия: нет Ежем. комиссия: нет Аванс: от 20,00% |
| 4 | Белинвестбанк На строительство жилой недвижимости | 15,28 | Ставка: 15,28% Разовая комиссия: нет Ежем. комиссия: нет Аванс: от 10,00% |
| 5 | БПС-Сбербанк Приобретение жилья «Новоселье со Сбербанком» и «А-100 Девелопмент» | 15,5 | Ставка: 15,50% Разовая комиссия: нет Ежем. комиссия: нет Аванс: от 20,00% |
| 6 | Белагропромбанк Кредит на строительство жилого помещения | 15,5 | Ставка: 15,50% Разовая комиссия: 45,00 руб. Ежем. комиссия: нет Аванс: от 10,00% |

*Для справки:*
*Реальная ставка – это номинальная ставка, откорректированная с учетом одноразовой и ежемесячной комиссии при их наличии.*

СИТУАЦИЯ

# «На одной кухне не может быть двух хозяек»

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

## ИЗ ИСТОРИИ ВОПРОСА

Открытое акционерное общество «Оршанский авиаремонтный завод» является ведущим предприятием в Республике Беларусь по выполнению капитального ремонта различных модификаций транспортно-десантных вертолетов Ми-8 (Ми-17) и боевых Ми-24 (Ми-35). Осваивается ремонт вертолетов Ми-26 и самолетов L-39.

В 2012 году на основании распоряжения президента Беларуси государство продало свой пакет акций ОАО «Оршанский авиаремонтный завод» двум инвесторам – белорусскому закрытому акционерному обществу «Системы инвестиций и инноваций», которым руководит Александр Садовой (около 40 процентов акций) и украинскому публичному акционерному обществу «Мотор Сич», подконтрольному Вячеславу Богуславеу (около 60%). Сообщалось, что белорусский акционер заплатил 1,43 млн долларов, украинский – 2,14 миллиона. Тогда же инвесторы обязались инвестировать в Оршанский авиаремонтный завод 12 млн долларов, создать более 300 рабочих мест, отремонтировать два общежития, а также вложить средства на развитие поселка Болбасово, где находится завод. Но не все намеченное удалось реализовать. Например, на средства инвесторов было реконструировано одно заводское общежитие, ремонт второго начался два года назад, но так и не закончен. В 2012 году на заводе трудилось 650 человек, сегодня среднесписочная численность работников 621 человек.

К СЛОВУ



## Почему молчит Александр Садовой?

В отличие от украинского акционера оршанского завода Вячеслава Богуслаева, Садовой все это время ни разу не выступил в прессе с каким-либо комментарием. Хотя еще два года назад Александр Садовой рассказывал о перспективах завода и планах выйти на оборот в сотни миллионов долларов, хвалил своего партнера Богуслаева, который сегодня, по сути, вину за национализацию предприятия перекладывает на него.

Все наши попытки связаться с Александром Садовым, к сожалению, не увенчались успехом. В это сложно поверить, но у компании, которая владела почти 40% акций Оршанского авиаремонтного завода, нет даже странички в интернете. Городской телефон в минском офисе ЗАО «Системы инвестиций и инноваций» несколько дней не отвечает. А по мобильному номеру дозвониться удалось только однажды. Выслушав нашу просьбу связаться с Александром Садовым, нам ответили очень лаконично: «Мы передадим вашу просьбу». Больше трубку мобильного телефона никто не снимал, и с редакцией, естественно, не связывался.

Александр Садовой – известный бизнесмен. До того, как стать акционером Оршанского авиаремонтного завода, был топ-менеджером, а потом председателем совета директоров компании «Белтехэкспорт», которая занималась экспортом продукции военного назначения. Ушел из компании в 2012 году после введения Евросоюзом санкций в отношении компании и ее главного акционера **Владимира Пефтиева**.

В ТЕМУ

## Вячеслава Богуслаева могут лишить депутатской неприкосновенности?

В Украине у правоохранительных органов также возникли вопросы к акционеру Оршанского авиаремонтного завода, президенту запорожской компании «Мотор Сич», депутату Верховной Рады Вячеславу Богуслаеву.



Службой безопасности Украины расследуется уголовное производство по статье диверсия – по факту подготовки к совершению действий, направленных на ослабление государства из-за разрушения завода «Мотор-Сич». Проще говоря, попытки перевести завод в другое государство. Сейчас СБУ наложен арест на пакет акций ОАО «Мотор Сич» в 56%.

Еще в мае генпрокурор Украины Юрий Луценко заявил, что Генпрокуратура планирует подать в Верховную Раду представление о снятии неприкосновенности с депутата Вячеслава Богуслаева. Но этого пока не случилось.

ШТРИХ

## Бывший гендиректор за решеткой

В начале этого года ОАО «Оршанский авиаремонтный завод» упоминался в связи с судебным разбирательством. В феврале Толочинский районный суд Витебской области рассматривал дело бывшего генерального директора предприятия **Владимира Троицкого**. Он ушел с авиаремонтного завода еще в 2015 году, проработав там почти 9 лет.

Судом было установлено, что Троицкий злоупотребил служебным положением в 2011–2013 годах и нанес заводу ущерб на сумму более 25 тысяч рублей. Его обвинили в том, что в качестве подрядчика во время ремонта одного из объектов была привлечена фирма, соучредителем которой являлась его супруга, и стоимость строительства была завышена на вышеназванную сумму.

Владимир Троицкий своей вины не признал. Его жена после суда заявила: *«Муж стал «стрелочником» в конфликте двух акционеров. Один из них, кто считал, что вложил больше денег в завод, его и «заказал». А у них срывалось выполнение инвестдоговора перед президентом. В итоге нашли крайнего»*.

Владимир Троицкий был приговорен к 4 годам тюрьмы усиленного режима и конфискации имущества.

**Мария ЭЙСМОНТ.**



## Міхась Скобла – манах ІААН (ЗНІЧ)

# «Жыві, Беларусь, – кветка ў садзе Гасподнім!»

*Дваццаць два гады жыве ў Свята-Успенскім манастыры ў Жыровічах паэт Зніч. У свеце яго памятаюць як паэта і філосафа Алега Бембеля, за манастырскім мурам ён – манах Іаан. Ён ахвотна сустракаецца са шматлікімі паломнікамі, распаўсюджвае з іх дапамогай рэдагаваны ім багаслоўска-літаратурны лісток "Жыровіцкая абіцель". Яго нярэдка можна пабачыць на імпрэзах у Слоніме і Мінску – як аўтара васьмі паэтычных кніг, першыя з якіх выйшлі ў Нью-Ёрку і Беластоку яшчэ за савецкім часам. З зацікаўленнем паэт-манах успрыняў і прапанову стаць госцем рубрыкі "Дыялогі".*

### «Манастырскі рэжым блізкі да вайсковага»

**– Брат Іаан, з чаго пачынаецца ваш манастырскі будзень?**

– З малітвы. Манах павінен няспынна маліцца, увесь час, калі не спіць, прамаўляць у сэрцы сваім Ісусаву малітву: "Госпадзе Ісусе Хрысце, Сыне Божы, памілуй нас. Госпадзе Ісусе Хрысце, Сыне Божы, памілуй мя грэшнага. Госпадзе Ісусе Хрысце, Сыне Божы, памяні нябожчыкаў у Царстве Тваім". Пад'ём у нас у 5.20 раніцы, манастырскі рэжым даволі суровы, але яго трэба па меры сіл трымацца. Паслабленні толькі для хворых і для людзей у вельмі паважным веку. 6.00 – пачатак ранішняга богаслужэння. Каля 8.00, пасля службы, – сняданак. З 9.00 да 17.00 – поўны рабочы дзень, гэтак званыя паслушанні (з перапынкам на абед). З 18.00 – вячэрняе богаслужэнне, якое доўжыцца часам да 21.00. Пасля яго правілы манашаскія – выбраныя малітвы, акафісты, вячэрнія малітвы. Насельнікі манастыра збіраюцца ў храме, чытаюць правілы, якія завяршаюцца недзе каля 22.00. Да 23.00 – келейны час, можна маліцца, чытаць кнігі. У 23.00 – адбой. Манастырскі рэжым блізкі да вайсковага. У воінстве цэсара і ў воінстве Хрыстовым прыкладна аднолькавыя рэжымы.

**– А што такое паслушанні? Нейкая работа на тэрыторыі манастыра?**

– Так, прычым выконваюцца яны без абмеркавання, як у войску. Вось цяпер лета, сухмень. Пасля снедання манахі даглядаюць сад, паліваюць гарод, ягады збіраюць – парэчкі, вішні. Могуць быць паслушанні па прыборцы храмаў. У мяне, грэшнага, паслушанне спецыфічнае – выдавецкая дзейнасць і кантакты з творчай моладдзю. Калі запрашаюць нейкія навучальныя ўстановы, я ахвотна адгукаюся.

### «Мова кожнаму народу дадзена як найвялікшы Божы дар»

**– Вы ўжо шмат гадоў рэдагуеце багаслоўска-літаратурны лісток "Жыровіцкая абіцель". Колькі нумароў ужо пабачылі свет?**

– 105 нумароў. Апошні нумар прысвечаны 1030-годдзю хрышчэння Русі, якое адзначаецца 28 ліпеня. Між іншага там друкуецца артыкул "Як змяніць сваё жыццё: пакаянне князя Уладзіміра". Гэты кіеўскі князь быў лютым паганцам, яму Гасподзь даў зведаць усю грахоўную бездань. Але потым пакаяўся і стаў хрысціцелем Русі.

**– А хто дапамагае вам у выданні "Жыровіцкага лістка" і кніг? Я звярнуў увагу, іхні наклад – тысячы асобнікаў.**

– Людзі скідваюцца на імпрэзах. Скажам, пасля нейкай вечарыны я кладу нумары "Жыровіцкай абіцелі" і кнігі на стол, людзі бяруць і, хто колькі можа, ахвяруе.

**– У манастыры вы жывяце пераважна ў рускамоўным асяродку. Але пішаце толькі па-беларуску. Што змушае вас, кажучы словамі Францішка Багушэвіча, не пакідаць мовы нашай беларускай?**

– Мова кожнаму народу дадзена як найвялікшая святыня, як найвялікшы Божы дар, якім гэты народ павінен бараніць чалавечыя і хрысціянскія каштоўнасці.

**– Вы пазіцыянуеце сябе як сябра літаб'яднання "Крэсіва". Што яно з сябе ўяўляе? У манастыры ёсць яшчэ адзін пісьменнік – іераманах Еўстафій. Вы двое – гэта і ёсць "Крэсіва"?**

– Літаб'яднанне "Крэсіва" нефармальнае, яно не мае сваёй бюракратыі, справаводства. Дзе двое ці трое збіраюцца і славяць у вершах ці прозе Хрыста – там і літаб'яднанне "Крэсіва". Сумоўі літаратурныя адбываюцца і ў Жыровіцкім аграпрамысловым каледжы, рэгулярна мяне туды запрашаюць на сустрэчы з юным пакаленнем беларусаў. Дарэчы, на сцяне таго каледжа вялізнымі літарамі напісана: "Мая Радзіма – Беларусь". Юнакі, якія прыходзяць са школьнай лавы ў гэты каледж, вельмі мяне радуюць, яны заўжды ўважліва слухаюць беларускія хрысціянскія вершы. Мне здаецца, яны разумеюць, што менавіта ад іх залежыць, ці будзе ў нас працяг у гісторыі, ці на другім-трэцім пакаленні ўсё абарвецца. І калі я бачу, як гараць вочы ў гэтых юных беларусаў, вера ажывае ўва мне, зямныя песімістычныя меркі знікаюць, я бачу, што Гасподзь хоча, каб Беларусь мела працяг. Я бываю таксама на сустрэчах са школьнікамі і студэнтамі ў другіх гарадах і бачу, што юная Беларусь – жыве.

**– Але ж вы ўваходзіце і ў Саюз беларускіх пісьменнікаў, які ўлада стараецца не заўважаць. А ці не прапаноўвалі вам уступіць у прыўладны саюз?**

– Я ўступіў у 1989 годзе яшчэ ў Саюз пісьменнікаў СССР і маю сяброўскі білет за подпісам Максіма Танка. Калі мне кажуць, што такой арганізацыі даўно няма, як і ўсяго СССР, я пярэчу: "Як гэта няма? А вы ведаеце, што азначае абрэвіятура СССР? Мне яшчэ ў юнацтве мая цётка Анастасія, якая прайшла ГУЛАГ і ўсё роўна не баялася адкрыта наведваць царкву, растлумачыла, што СССР расшыфроўваецца дваяка – як Свяшчэнны Саюз Святой Русі і Сатанінскі Саюз Сіянізаваных Рэспублік. Дзве гэтыя сілы засталіся і сёння, і іхняе глабальнае супрацьстаянне працягваецца. Я залічаю сябе да Саюза пісьменнікаў Свяшчэннага Саюза Святой Русі, а наша літаб'яднанне "Крэсіва" лічу яго філіяй.

### «Я малюся, каб колеры Хрыстовай плашчаніцы зноў сталі нашым дзяржаўным сцягам»

**– На вокладках вашых кніг абавязкова прысутнічае бел-чырвона-белае колеравае спалучэнне. Ці з'яўляецеся вы прыхільнікам вяртання бел-чырвона-белага сцяга на дзяржаўныя флагштокі?**

– Гэта трэба вымаліць у Госпада. Нам усім трэба моцна пакаяцца. Моцнае нацыянальнае пакаянне павінна быць. І тады добрымі справамі і малітвамі, можа, вымалім у Госпада, каб колеры Хрыстовай плашчаніцы зноў сталі нашым дзяржаўным сцягам. Царква даўно пад гэтымі колерамі. Адзенне епіскапаў і патрыярхаў праваслаўных пакрыта колерамі плашчаніцы. Мы сапраўды адзінае племя на зямлі, якое колерамі сваёй плашчаніцы акрыў Гасподзь.

**– Але чаму пра гэта так мала ведаюць праваслаўныя вернікі?**

– Вернікі, на жаль, не ведаюць шмат чаго. Слаба ведаюць Евангелле, Новы Запавет, запаведзі Божыя, Нагорную пропаведзь… Таму – будзем ведаць, будзем заглыбляцца ў слова Божае. Ведаць пра сімволіку нашу, адчуваць яе глыбінныя карані. Як вядома, касавінка на Божым крыжы якраз сімвалізуе двух разбойнікаў, распятых побач з нашым Збаўцам. Яны абодва адчувалі аднолькавыя фізічныя пакуты і спачатку праклінalі ўсё на свеце: і свой лёс, і сваіх мучыцеляў, і самога Хрыста, які не можа ні сабе, ні ім дапамагчы. Але калі разбойнік справа пачуў, як моліцца Хрыстос, у сэрцы ягоным нешта зварухнулася, і ён папрасіў: "Госпадзе, памяні мяне, калі прыйдзеш у Царства Тваё". І Гасподзь адказаў яму: "Існа кажу табе: сёння са мной будзеш у раі". Першым, каго Гасподзь узяў у рай, быў раскаяны разбойнік. Дык вось усе мы, у той ці іншай меры, – разбойнікі, кожны разбойнічае па-свойму. Будзем ісці шляхам раскаянага разбойніка, будзем раскаянымі – зразумеем, чаму нас Гасподзь пакрыў бел-чырвона-белым сцягам. Будзем не раскаянымі – што ж, тады выберам вечнасць без Хрыста. Я думаю, Гасподзь ізноў дабраславіць, каб святыя колеры Хрыстовай плашчаніцы сталі нашым дзяржаўным сцягам. Я малюся за гэта.

### «Не тварыце куміраў з нацыянальных герояў»

**– У афіцыйным друку (прыкладам, у часопісе "Беларуская думка") у апошнія гады неаднназначна паказваецца асоба Кастуся Каліноўскага. А часам і праваслаўныя святары выказваюцца на яго адрас крытычна. У некаторых публікацыях ён паказваецца ледзь не тэрарыстам. Можа, вы як хрысціянін знойдзеце нейкае разважлівае слова, каб прымірыць усіх і палагодзіць сітуацыю?**

– Я вось што скажу. Ёсць Сабор беларускіх святых. І ў кожнага народа ёсць сабор сваіх нацыянальных святых. І ёсць таксама "ідаластас" нацыянальных герояў. Так, яны змагары, якія паміралі самі, праліваючы мора чужой крыві. Хрыстос паказаў прыклад праліцця сваёй крыві, а не чужой. А героі, на жаль, праліваюць рэкі і акіяны чужой крыві. У адрозненне ад святых, якія праліваюць толькі сваю кроў. Што да Кастуся Каліноўскага – люблю яго, і гаварыў пра "ідаластас" у сэнсе засцярогі – не тварыце куміраў з нацыянальных герояў. У айца Сергія Булгакава ёсць цудоўны тэкст "Інтэлігенцкі гераізм і хрысціянскае падзвіжніцтва". Ён там глыбока размяжоўвае гэтыя два паняткі. Інтэлігенцкі гераізм – свецкі, секулярызаваны і – хрысціянскае падзвіжніцтва. Хрыстос паказаў, што такое шлях хрысціянскага падзвіжніцтва, што такое праліццё сваёй крыві дзеля многіх.

**– Дык жа Каліноўскі якраз і ахвяраваў сабой дзеля іншых, свядома пайшоўшы на смерць.**

– Так, героі рызыкуюць сваім жыццём. Пры ўсёй павазе да смеласці, да самаахвярнасці Кастуся трэба аб'ектыўна прызнаць, што ён праліў многа крыві чужой. І галоўнае – бунт яго быў скіраваны супраць дзяржавы, заканадаўства якой грунтавалася на запаведзях Божых і канонах царквы. Перад смерцю ён меў час на пакаянне, і ёсць сведчанні, што сапраўды пакаяўся. У гэтым сэнсе лёс Кастуся вельмі падобны да лёсу другога нашага вялікага земляка – Дастаеўскага, якога Гасподзь таксама правёў праз бунтоўны гераічны перыяд. І ён таксама перад расстрэлам стаяў, перажыў фактычна пакаранне смерцю. А потым Гасподзь яго іншым шляхам павёў – праз катаргу, дзе з'явіўся яму, адкрыўся, як ніколі ў жыцці. Вось якім шляхам Гасподзь правёў двух нашых нацыянальных герояў.

**– Крытыкі Каліноўскага (у тым ліку прадстаўнікі царквы) супрацьпастаўляюць яму генерал-губернатара Мураўёва. Маўляў, Мураўёў варты пашаны, бо, ці бачыце, будаваў храмы (вядомыя ў народзе як "мураўёўкі"). Атрымліваецца, не так істотна, што ўчыніў той ці іншы чалавек, бо калі ён збудаваў храм, то царква яго мусіць ушанаваць?**

– Той, хто падаўляў па сваім статусе бунт, выконваў загад цэсара, выконваў свой воінскі абавязак. Гэта першае. Другое: любы чалавек, у тым ліку і начальнік, тым больш воінскі начальнік – грэшны чалавек, як і ўсе мы. І таму, безумоўна, бязгрэшным Мураўёў не быў. Ніводнаму грэшніку не зачынены шляхі да пакаяння. І адной з самых сур'ёзных формаў пакаяння з'яўляецца будаўніцтва храмаў. Нездарма кажуць, што калі нехта збудаваў храм, яму шмат грахоў за гэта Гасподзь дараваў. Паўтаруся, Мураўёў быў воін на службе. Ён выконваў свае абавязкі.

**– Так можна апраўдаць любое злачынства. Маўляў, служывы чалавек выконваў загад цэсара ці галоўнакамандуючага.**

– Не апраўдаць, але – не судзіць уперад Госпада. Мы можам выказаць толькі сваё прыватнае меркаванне. А судзіць будзе толькі Гасподзь. Нашы прыватныя меркаванні ні ў якім разе ў якасці канчатковага вердыкту разглядаць няможна. Гэта грэх.

### «Брат беларус, – Гасподзь гукае, – дай жменьку дзетак свайму краю!»

**– Адна з нядаўніх вашых кніг мае назву "Апошняму беларусу". Вы так песімістычна глядзіце на нашу будучыню?**

– Па зямных мерках ёсць падставы непакоіцца, што сённяшняе пакаленне юных беларусаў можа стацца і апошнім. Праўда, на другой вокладцы згаданай кнігі змешчана больш аптымістычнае двухрадкоўе: "Як колас на забытай пожні, / дай Бог, каб ты не быў апошні!". У цяперашніх беларускіх сем'ях найчасцей адно дзіця. Прычым многія сем'і разбураюцца, толькі паспеўшы стварыцца. Так што дынаміка сумная. А ўсё таму, што ў Беларусі легальна дзейнічае канвеер смерці – узаконеныя аборты. І вось я назіраю, як абаронцы правоў чалавека лямантуюць на ўвесь свет, калі каго-небудзь пасадзяць на 15 сутак, а пра гэты канвеер смерці – маўчаць. А па статыстыцы, кожную хвіліну дваіх маленькіх беларусаў знішчаюць у легальных абартарыях. Штохвіліны – дваіх! І мы часам засмучаемся, што насельніцтва Беларусі скарачаецца. Дык яно скарачаецца з нашай агульнай згоды. І гэта злачынства перад Богам і гісторыяй не мае апраўдання. Усе папярэднія злачынствы, усе войны з часоў Чынгізхана і Напалеона, усе войны грамадзянскія – гэта кропля ў акіяне дзіцячай крыві. І таму я звяртаюся да кіраўніка Беларусі: шаноўны Аляксандр Рыгоравіч, сваім дэкрэтам спыніце страшны канвеер смерці! Я буду за гэта маліцца.

**– Але ж ёсць у Беларусі мясціны, дзе дэмаграфічнай праблемы не існуе. Скажам, у Альшанах на Століншчыне. Альшанцы не п'юць, шмат працуюць і маюць шматдзетныя сем'і. А ўсё таму, што з'яўляюцца пратэстантамі. Дык, можа, гэта шлях, па якім павінна ісці ўся Беларусь?**

– Дык і на святой жыровіцкай зямлі ёсць шматдзетныя сем'і, дзе па 5–6 дзетак, а па 3–4 – і не пералічыць. Канешне, ласка Божая сыходзіць да ўсіх, хто моліцца, працуе і прымае ўсе Божыя дары. У вёсцы, якую ты назваў, моляцца шчыра, працуюць шчыра – і Гасподзь не абмінае іх сваёй ласкай. І ў Жыровічах моляцца шчыра і працуюць шчыра. Калі мы будзем прымаць усе Божыя дары, усіх малых беларусікаў, якіх Гасподзь пасылае на нашу зямельку, то праз адно-два пакаленні нас будзе не адзін дзясятак мільёнаў. "Брат беларус, – Гасподзь гукае, – / дай жменьку дзетак свайму краю!"

### «Беларусь – сэрца хрысціянскай Еўропы»

**– Час ад часу ў Беларусі (і ўлада, і інтэлігенцыя) пагаворваюць пра патрэбу нацыянальнай ідэі, але сфармуляваць яе ніхто не бярэцца. Можа, вы паспрабуеце?**

– Нацыянальная ідэя павінна спалучаць нябеснае і зямное ў непарыўным адзінстве. Калі яе шукаць толькі ў зямных ракурсах, нічога не знойдзеш, будуць вечныя блуканні ў прыцемках. Нацыянальную ідэю можна знайсці, калі пачувацца ў адзінстве са Збаўцам нашым, з ягоным зямным і нябесным лёсам. Калі ад Збаўцы не адхіляцца, калі памятаць, што беларусы – адзіны народ у свеце, пакрыты колерамі Хрыстовай плашчаніцы як сцягам нацыянальным. Калі ісці шляхам Хрыстовым і ведаць, што нават пры поўным зруйнаванні дзяржаў народы не знікалі... Наш Збаўца, якога глынуў нябыт, уваскрос, так уваскрасалі і народы. Наша нацыянальная ідэя – у Хрысце, Беларусь – сэрца хрысціянскай Еўропы.

**– Я нядаўна перачытаў вашу кнігу "Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс", якая ў 1985 годзе выйшла ў Лондане. На жаль, яна і сёння застаецца актуальнай, паколькі русіфікацыя ўсіх сфер жыцця ў Беларусі працягваецца. Не шкодзіла б яе перавыдаць.**

– Калі знойдзецца зацікаўлены выдавец – калі ласка. Праўда, адно перавыданне ўжо было – у зборы маіх выбраных твораў шэсць гадоў таму.

**– Грунтоўнае пасляслоўе да "Роднага слова…" напісаў Уладзімір Караткевіч. Чаму вы вырашылі звярнуцца менавіта да яго?**

– Помніцца, я да Уладзіміра Сымонавіча прыйшоў на самым пачатку, калі толькі пачаў збіраць матэрыял для раздзела кнігі: "Што мы думаем пра цябе, беларуская мова?". І ён вельмі прыхільна паставіўся да маёй ідэі, выказаў свае меркаванні (у кнізе яны змешчаны пад крыптанімам). Калі кніга цалкам склалася, я зноў прыйшоў да Караткевіча і папрасіў сказаць некалькі заключных слоў. Ён узяў машынапіс і пагадзіўся. Я думаў, што ў масцітага пісьменніка шмат клопатаў, доўга чакаць давядзецца. Але літаральна праз некалькі дзён звоніць мне ягоная жонка Валянціна: "Прыходзь, забірай пасляслоўе". А там – дваццаць дзве старонкі машынапісу! Добрыя людзі дапамаглі некалькі дзясяткаў адксерыць (тады гэта было складана), і пайшла кніга па руках. І знайшла ўрэшце выдаўца ў Лондане – без усякага майго ўдзелу.

### «Я вярнуўся б у КПСС, калі б гэта абрэвіятура расшыфроўвалася як Крыжаўзвіжанскі Праваслаўна-Сацыяльны Саюз»

**– Тады ж, у 1985-м, за выданне кнігі на Захадзе вас выключылі з камуністычнай партыі. А калі б сёння да вас у манастыр прыехаў прадстаўнік гэтай самай партыі, выбачыўся і вярнуў партбілет, вы ўзялі б яго?**

– Узяў бы! Толькі з адной умовай, што КПСС будзе расшыфроўвацца так: Крыжаўзвіжанскі Праваслаўна-Сацыяльны Саюз – з адпаведнай зменай свайго статуту і праграмы.

**– Увогуле, здзіўляе геаграфія выдання вашых кніг. "Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс" выйшла ў Лондане, "Рэха малітвы" – у Нью-Ёрку, "Саната ростані" – у Беластоку...**

– Калі я ў свой час падаваў заяву на ўступленне ў Саюз пісьменнікаў, я яе сфармуляваў наступным чынам: "Максіму Танку, Нілу Гілевічу. Прашу прыняць мяне ў ваш Саюз. Бо ў краіне сіняй, дзе я ўваскрасаю / ў сузор'і мар, найбялейшых у свеце, / я не самотны, я кнігу маю / з друкарні пані Маргарэт Тэтчар". Браты-пісьменнікі пасмяяліся і ніяк не адрэагавалі на маю заяву. Потым я да яе дапісаў дадатак: "Марыся Тэтчар сваёй раллёй / пайшла, болей поле маё не арэ яна. / Другая кніжка самоты маёй – / з друкарні пана Рональда Рэйгана". А потым яшчэ адзін post scriptum з'явіўся: "І вось нечакана кніжачка трэцяя – / з друкарні пана Войцеха Ярузельскага".

**– У манастырскай кнігарні сярод сотняў розных выданняў я, на вялікі жаль, не знайшоў ніводнай беларускай кнігі. І вашых кніг там чамусьці няма.**

– Ты, брат Міхась, відаць, кепска шукаў. Прайдзі на вахту семінарыі, там стаіць адмысловы стэнд з нашымі выданнямі. Ёсць там і "Жыровіцкая абіцель", і часопіс "Ступені" (ён двухмоўны), і зборнік беларускамоўных пропаведзяў архіепіскапа Гродзенскага і Ваўкавыскага Арцемія. Са сваімі кнігамі я нікому не набіваюся, але калі нехта просіць, дык даю. На тым стэндзе можна знайсці і паэму невядомага інака "Стагоддзяў жырандоля" на беларускай мове – яна вельмі добра разыходзіцца, не паспяваем дадрукоўваць. Так што выданні на беларускай мове ў нас ёсць, былі б чытачы.

*Мінск–Жыровічы.*

---

ЗНІЧ

## ХАЙ СТАНЕ МАЛЕННЕМ ВЕРШ

### Брату-беларусу

…не прад сконам з табою мы
сёння стаім –
а прад вечным Вяртаннем
Прадвесня…
…ўваскрасі Беларушчыну ў сэрцы
сваім –
і ў Сусвеце яна ўваскрэсне!..

### Бліжняму

…дэман не можа тварыць:
лёс яго – толькі бурыць…
помні не мімаходзь:
Творца – адзін Гасподзь…
дзеюць і Той, і той
нашай з табою рукой…

***

…мае белыя строі – у месцы
святым…
апранаю іх – перад Прычасцем…
спапяляецца пекла – у сэрцы
маім…
і на міг усміхаецца шчасце…
…потым – цешуся
хітраспляценнямі слоў…
зачароўваюць мары і мроі…
і у змрок апранаецца сэрца маё…
у жалобныя чорныя строі…
…хто свячу майго крохкага
шчасця задзьмуў?..
падміргну спакушэнням-віхурам…
скрушна й вусцішна гордаму
сэрцу майму
на разломе між светам і мурам…

### Хрыстос і Айчына

…раскрыжаванне кат завершыў,
аблашчыў кужаль кроў жыцця…
…так, Плашчаніца – гэта першы
мой бел-чырвона-белы сцяг!..

### Паэт і кат

…у паэта – Слова,
у таго – сякера...
нішто не нова
у новай эры.
…ляцяць галовы,
і кроў ліецца…
паэта Слова
загоіць сэрцы!..
…і нават кату,
які паверыў,
дарую краты
і стук сякеры…

***

…зямную сцяжыну завершы
раскаяным сэрцам найперш…
…маленні – вышэй за вершы.
…хай стане маленнем – верш!..

***

…вораг распальвае недавер –
каб з памяці грэшніка сцерці:
мы маем вечнае – тут і цяпер –
Царства Нябеснае ў сэрцы…

### Святы покрыў

…чую слова вешчае "люблю"
над маёю спеўнаю званіцай…
…пакрываю Неба і Зямлю
Бел-чырвона-белай
Плашчаніцай…

### Гімн Белай Русі

На матыў Паланеза Агінскага
…Краю мой, Ты палёг у сэрцы
зямлі,
Еўропаю названай…
пакрыты Плашчаніцаю –
Хрыстом…
паклікaны – Апосталам…
хрышчоны Роўнаапостальным
у веры праваслаўнай,
ратуешся малітвай і пастом…
– Жыве Беларусь!.. – Жыве! –
і ў Польшчы… і ў Нямеччыне…
паўсюдна, дзе дух чалавечы
ратуецца ў Царкве…
– Жыве Беларусь!.. – Жыве!.. –
– Жыве Беларусь!.. – Жыве!.. –
і ў Бельгіі… і ў Ангельшчыне…
паўсюдна, дзе памяць вечная
схіляецца у журбе…
– Жыве Беларусь!.. – Жыве!.. –
– Жыве Беларусь!.. – Жыве!.. –
– ў Амерыцы… і ў Аўстраліі…
паўсюдна, дзе з смерці паўсталі,
хто не забыў сябе.
– Жыве Беларусь!.. – Жыве!.. –
…у Піцеры… і ў Маскве…
ў Сібіры… і ў Кітаі
з нябыту Яна ўваскрасае…
– Жыве Беларусь!.. – Жыве!.. –
…ля сэрцаў сляпых і глухіх,
крывавячы губы і скроні,
лятуць і лятуць тыя коні –
па гонях сваіх і чужых…
…лунаюць бель-чырвань і бель
у золаце і блакіце…
то – нібыта золак у жыце,
ўзыходзіць Царквы карабель…
…у сэрцы і галаве,
дзе цені шаленства і горасць, –
жыве Падабенства і Вобраз…
– Жыве Беларусь!.. – Жыве!..
Краю мой, Ты палёг у сэрцы зямлі,
Еўропаю названай…
пакрыты Плашчаніцаю –
Хрыстом…
паклікaны – Апосталам…
хрышчоны – Роўнаапостальным
у веры праваслаўнай,
ратуешся малітвай і пастом…

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# Загінуў пад Курскам

*Дарагая рэдакцыя!*

*У гэтыя дні, калі адзначаецца 75-годдзе вялікай бітвы пад Курскам, уся мая сям'я ўспамінае дарагога нам чалавека, якога, праўда, ніхто з нас не бачыў, але ведаем, што ён адчайна змагаўся за перамогу над фашыстамі. Часта яго праўнукі пытаюцца: "Ён герой?". І мы, старэйшыя, адказваем: "Больш чым герой, ён для ўсіх нас родны, Рыгор Трыфанавіч Канаплёў, радавы салдат, што ляжыць у брацкай магіле пад Курскам".*

*Калі зможаце, надрукуйце, калі ласка, мой ліст.*

*З павагай –*

**Ларыса КАНАПЛЁВА.**

*Мінск.*



Рыгор Канаплёў нарадзіўся і жыў у Касцюковічах. Працаваў у леспрамгасе шафёрам. Вольны ад працы час любіў бавіць за гармонікам. Дарэчы, на фотаздымку, які знаходзіцца ў сямейным альбоме малодшых Канаплёвых, Рыгор Трыфанавіч сфатаграфаваны менавіта з любімым музычным інструментам у руках. Гэта адзіны фотаздымак, які застаўся на памяць аб бацьку, дзядулі.

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, Рыгор Канаплёў, як і многія яго землякі, быў прызваны на фронт. Удзельнічаў у жорсткіх баях пад Курскам, дзе і загінуў у 1943 годзе. Аднак доўгія дзесяцігоддзі родныя не ведалі, дзе ён пахаваны. І толькі ў 2006 годзе сын загінуўшага Анатоль Рыгоравіч атрымаў вестку з ваеннага камісарыята Курскай вобласці. У ёй паведамлялася, што радавы Канаплёў Рыгор Трыфанавіч памёр ад ран 22 чэрвеня 1943 года, пахаваны ў брацкай магіле в.Машкіна Канышаўскага раёна Курскай вобласці. Імя салдата ўвекавечана на мемарыяльнай пліце воінскага пахавання.

Як былі ўзрушаны сын, унукі салдата, што нарэшце могуць наведаць магілу роднага чалавека, што іх бацька, дзед цяпер не "без вестак загінуўшы"! Анатоль Рыгоравіч разам са сваім сынам Ігарам паспяшаліся з Мінска, дзе сёння пражываюць, у Курскую вобласць. А нявестка салдата Л.І.Канаплёва з гэтай нагоды напісала верш, які і даслала ў рэдакцыю газеты.

*Перад захадам сонца*
*Ёсць хвіліна тужлівая,*
*Заціхаюць салоўкі*
*Над брацкай магілаю.*
*І лёгкі вятрыска*
*Ціха шэпча нябыта:*
*"Спіце спакойна,*
*Вы не забыты".*
*Паўстагоддзя прайшло*
*Над узгорачкам гэтым,*
*А пра бацьку-салдата*
*Даведаліся летам.*
*Шукалі гадамі, урэшце знайшлі –*
*З Курска ліст ім даслалі такі:*
*"Ваш бацька загінуў у 43-м,*
*Ён тут пахаваны...*
Прыязджайце – прывецім!"
У вёсцы Машкіна
Брацкія могілкі ёсць.
І сабраліся двое да таты "у госці".
Стаяць на пагосце два беларусы –
Унучак дарослы і сын ужо сталы.
А яму ж было толькі за трыццаць;
Як салдата пад Курскам
ад кулі не стала.
Стаяць яны моўчкі,
Ледзь слёзы трымаюць,
Хоць ні бацькі, ні дзеда
Абодва не знаюць.
Толькі ў памяці вобраз
Са здымка ўсплывае,
Там, дзе юны хлопец
На гармоніку грае.
У 43-м заціхлі акорды зямныя –
Ні пісем, ні звестак,
З тых жорсткіх баёў.
І не ведаў ніхто на радзіме,
Што загінуў пад Курскам
баец Канаплёў.
...На гранітнай пліце
Шмат імёнаў адбіта,
І знаёмыя словы
"ніхто не забыты".
Позірк кожны радок вывучае,
Вось слізгнуў і,
нарэшце, знайшоў –
Ён шосты ад нізу –
радавы Канаплёў!
*І сціснула сэрца. У вачах –*
*горыч мукі:*
*Без цябе раслі твае дзеці,*
*ўнукі.*
*Ты ж нас, родны, прабач,*
*Што так доўга мы йшлі...*
*І лёг на пагорак*
*Гасцінцам жаданым*
*Грудок беларускай зямлі.*
*У цішы навакольнай,*
*у бярозавым гаі*
*Нават ветрык прыціх*
*і змоўклі салоўкі.*
*Разумеюць маленькія*
*птахі нябыта,*
*Што ніхто не забыты*
*і нішто не забыта.*

**На здымку:** ***Анатоль і Ігар Канаплёвы каля брацкай магілы.***

**Фота з сямейнага архіва.**

МНЕНИЕ

# Развивать не дворцовый, а дворовый спорт

Часто при решении тех или иных вопросов глава нашего государства отмечает, что мы – страна, бедная полезными ископаемыми, в том числе нефтью и газом, и не можем позволить себе жить на широкую ногу, иметь достойную зарплату, пенсию и другие блага для народа.

Действительно, у нас низкий прожиточный уровень жизни в сравнении с многими европейскими государствами, часть населения находится за чертой бедности. Сколько лет мы уже озабочены тем, чтобы достичь уровня средней зарплаты для бюджетников в эквиваленте 500 долларов.

Государство до сих пор не выполнило данное народу обещание вернуть банковские вклады населению и начать их выплату с 2012 года. До сих пор не известно, сколько же денег Сбербанк не вернул, и каково его мнение и планы на этот счет. Тайна за семью печатями. Поскольку этот вопрос часто поднимается на страницах «Народной Воли», то у чиновников, от которых зависит решение этого вопроса, видимо, уже выработался устойчивый иммунитет.

Люди пожилого возраста жалуются на высокие цены на лекарства, дорогие платные медицинские услуги. Государство не в состоянии обеспечить лечение детей за рубежом от многих болезней, которые пока еще не лечат в нашей стране, или приобрести дорогостоящее лекарство. Мы часто по телевизору слышим обращение родителей к населению с просьбой помочь собрать ту или иную сумму долларов для проведения их ребенку операции в Германии или Испании.

Государство вынуждено было поснимать многие заслуженные льготы с населения. Пенсионеры не могут себе позволить купить путевки в дома отдыха, и тем более съездить на море или совершить путешествие, то есть то, что было доступно в советское время.

В погоне за пополнением госбюджета государство вынуждено идти на непопулярные меры, подчас подрывающие здоровье наших граждан. Я имею в виду развитие таких отраслей, как производство табака и алкогольной продукции, составляющих значительную статью бюджета.

Мы строим или уже построили государство социальной направленности, однако это пока что слабо ощущается на деле. Даже повысив пенсионный возраст, мы забываем об увеличении пенсий (если раньше государство пересматривало размер пенсий раза три за год, то сейчас уже с трудом один раз).

Здесь хочется отметить, что многие вопросы, решаемые в стране, не всегда принимаются коллегиально, а часто без учета мнения населения, то есть налогоплательщиков. Примером может служить чрезмерное увлечение строительством дворцов для многих видов спорта, от которых не всегда получаем адекватную отдачу. Где наш хоккей, футбол на сегодняшний день?!

Нам нужен не дворцовый спорт (для избранных), а дворовый, доступный каждому ребенку и взрослому. В связи с этим мне хочется отметить, что своевременно и правильно возник вопрос о развитии лыжного спорта со школьной скамьи, как это было в советское время.

У нас во всех типовых современных школах имеются хорошие спортивные залы, во многих – неплохие стадионы, где можно успешно заниматься почти любым видом спорта в любое время года. Нужно только серьезно обратить на это внимание. В одном из интервью знаменитый хоккеист Вячеслав Фетисов также высказался за развитие хоккейных площадок в местах, доступных для всех ребят.

На фоне ряда многих нерешенных вопросов в стране, о которых было сказано выше, парадоксально смотрятся такие дорогостоящие мероприятия, как военные парады, часто устраиваемые государством на средства налогоплательщиков, тем более в неюбилейные годы. В следующем году у нас 75 лет со дня освобождения Минска от немецко-фашистских захватчиков. Выходит, тоже будем устраивать шоу-парад? Не лучше ли было бы обойтись гуляниями жителей и гостей города на прекрасных улицах и площадях Минска с выступлениями артистов эстрады с концертами, спортивными выступлениями на стадионе, фейерверками, красочным салютом и ротой почетного караула. Это было бы то, что мы называем разумным использованием народных денег на жизнь по средствам.

**Василий Семенович БОЛДЫШЕВ, кандидат наук.**

*Минск.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Другая завядзёнка: дубасіць мужа жонка

Мінчук Павел А. змусіўся пакінуць сям'ю, бо жонка рэгулярна яго біла. Чаму ж не даваў адпор? "Бо я не так выхаваны", – сказаў ён. А жонка патлумачыла: "Збівала яго за тое, што крыў мяне мацюкамі і абзываў сучкай..."

Як сябру скажаш, што пабіла
"Палова" ўласная цябе,
Зірне, бадай, як на дэбіла,
Насмешкай-здзекам задзяўбе.
Не сорамныя болькі-раны,
Калі ты проста падаў з ног,
Таму што быў у дупель п'яны
І жонцы здачы даць не мог.
Другую маем завядзёнку
(Усё якраз наадварот):
Мужык за шкіркі возьме жонку,
Калі яна "разявіць рот",
І кухталёў крыху падкіне
Або насоўгае як след.
Бо ў нас традыцыі такія,
Бо гэткі ў нас менталітэт.
Таму было чаму здзівіцца
І пасмяяцца спадцішка:
У Мінску жонка-маладзіца
Свайго збівала мужыка.
Хоць не ўспрымае гэта розум,
Але нямашака хлусні:
Мужык заўсёды быў цвярозым,
Ды з сінякамі дзень пры дні.
Канешне, ён зусім не волат,
І не такі ў яго кулак,
Як шар для боўлінга ці молат,
Аднак не скажаш, што здыхляк.
Ва ўсякім разе досыць моцы,
Каб ёй належны даць адпор.
А ён на ўдары – нуль эмоцый,
Трываў пакорна той тэрор
І не каціў, як кажуць, бочкі
На жонку грозную сваю.
Аднойчы ўсё ж сышоў у прочкі –
Пакінуў той мужык сям'ю.
І раструбіў па цэлым свеце,
Што не супраціўляўся злу!
– Няўжо не мог сваёй кабеце
Таксама ўехаць у скулу? –
У небаракі-бедачыны
Пытаўся хто-ніхто з калег. –
Трываць пабоі ад жанчыны –
То нават грэх, не толькі смех.
Мужык даваў адказ кароткі
Свайму калезе-сябруку:
– Не так я выхаваны ўсё-ткі,
Каб на жанчыну ўзняць руку.
Я нават крыкнуць не гатовы,
Бо крык той застрае ўнутры...
Затым спыталіся ў "паловы"
Мужчыны збітага сябры:
– Чаму, скажы, над бедным мужам
Тэрор наладзіла такі?
Перад табой ён поўзаў вужам...
– Бо муж выплёўваў мацюкі!
А аднаго, дарэчы, разу
Ён сучкай абазваў мяне.
Дык за падобную абразу
Любая мужа біць пачне...
Па-сутнасці, без дай прычыны
На мужы спаганяла злосць.
Ды скажуць многія жанчыны,
Што ў ейных словах праўда ёсць.
* * *
Няхай запомніць для навукі
Той выпадак любы мужык:
Як распусціць не можаш рукі,
Не варта распускаць язык...

## «Голая» эстрада

У нас эстрада стала "голай".
Не варта гэтаму дзівіцца:
Чым у спявачкі горшы голас,
Тым карацейшая спадніца.

## Паравоз

Даводзіў сябрукам мужчына,
Што ён у ложку – секс-машына.
Лічыў, што ён лухту не нёс,
Бо пыхкаў, быццам паравоз...

## «Жанаты» позірк

У метро нахабна, як пацук,
На дзяўчыну зыркае дзяцюк.
І, нарэшце, мовіла дзяўчына:
– Не глядзі жанатымі вачыма!

## Дзецям, усё дзецям!

Нам аддаваць патрэбна дзецям
Адразу ўсё – не па чуць-чуць,
Бо вырастуць ( і не прыкмецім!),
Дык усё роўна адбяруць...

## Харошы звычай

Нам гэты звычай дужа ў масць:
Калі ў кватэры пасядзелка,
Торт гаспадыня не падасць,
Пакуль не скончыцца гарэлка...

## Жыццё ўдалося

Былыя стрэліся сяброўкі.
– Я мужу аб'ядаю плеш,
Амаль што ўю з яго вяроўкі...
А як жа ў вёсцы ты жывеш?
– Жыццё ўдалося, несумненна,
А мужу дык няма цаны:
У хату не нашу й палена,
Бо самі лётаюць яны...

ПАЗІЦЫЯ

# Даўно наступіў час сказаць ПРАЎДУ, якой бы горкай яна ні была

Нумар "Народнай Волі" за 24 студзеня 2017 года я захоўваю ў сямейным архіве. У ім надрукаваны "Зварот да грамадзян Рэспублікі Беларусь і беларусаў усяго свету". Яго аўтары – сябры ствараемага аб'яднання "Вяртанне памяці".

Пастаянныя чытачы, магчыма, не забылі, пра што той зварот. А калі хто не помніць, то я нагадаю. Вось радкі з яго: "Падчас крывавага разгулу ў мінулым стагоддзі бальшавіцкіх ЧК-ВЧК, ГПУ-ОГПУ, НКВД, МГБ і КДБ, бадай, не было той сям'і, з якой карныя органы не вырвалі б бацьку, маці, сына, дачку, брата, сястру, дарослых і нават непаўнагадовых. А хто ўцалеў – застаўся запалоханым на ўсё жыццё..."

Звяртаючыся да ўлад і грамадства, аўтары публікацыі прапанавалі правесці такую працу, каб вярнуць кожнаму забітаму, закатаванаму, прыніжанаму яго добрае імя, каб памяць пра ахвяры бальшавіцкіх рэпрэсій перадавалася з пакалення ў пакаленне, каб на суд гісторыі былі вынесены імёны ўсіх тых, хто запляміў сябе расстрэламі ні ў чым не павінных людзей, хто здзекаваўся з іх падчас следчых дзеянняў, у турмах і лагерах.

Чытаючы той зварот, я думаў, што ён ускалыхне ўсё наша грамадства. На жаль, гэтага не адбылося. Мала, вельмі мала водгукаў з'явілася ў прэсе, на сайтах. Зразумела, чаму прамаўчалі ўлады. Хаця не, яны не прамаўчалі, сказалі сваё слова. У канцы 2017 года ўрачыста адзначылі 100-годдзе органаў бяспекі. Мяне здзівілі словы А.Лукашэнкі: "*У меня сложилось твердое мнение, что под натиском наших доморощенных и крупных образованных господ некоторые наши чекисты стали стыдиться своего прошлого. Уважаемые друзья, вам, нам за прошлое наших спецслужб, чекистов, стыдиться незачем. Опорочить историю легко и просто. Но надо помнить, что история сильно платит за ее искажение...*" Задумайцеся над апошнімі словамі: "история сильно платит за ее искажение". На мой погляд, гісторыя ніколі і ні за што не плаціць, яна можа быць альбо праўдзівай, альбо хлуслівай, справядлівай альбо крыважэрнай. Галоўнае – каб яна была гуманнай у адносінах да чалавека. І тут я не магу яшчэ раз не працытаваць А.Р.Лукашэнку: "*Я требовал, требую и буду требовать ни в коем случае не допустите в своей работе таких ошибок, которые бы сломали судьбы людям. Хотя бы одному человеку. Вот за это история нас никогда не простит*». Пагадзіцеся, правільна сказана. Але ж гэтае выказванне супярэчыць таму, што я працытаваў раней: "...вам, нам за прошлое наших спецслужб, чекистов, стыдиться незачем». А на чыіх руках кроў мільёнаў закатаваных людзей? Хто ў 1937 годзе за адну ноч знішчыў гонар беларускай нацыі – знакамітых пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў, вучоных? Так, падчас крывавага разгулу бальшавіцкіх ЧК-ВКЧ, ГПУ-ОГПУ, НКВД, МГБ і КДБ ахвярамі сталі тыя, кім магла ганарыцца Беларусь, тыя, хто мог актыўна развіваць усе яе сферы, хто спрыяў росквіту краіны, але чые жыцці былі абарваны подлымі стрэламі катаў.

Дык скажыце, чаму гісторыя не можа праліваць на свет Божы ўсю праўду як пра бязвінных ахвяр, так і пра крыважэрных іх катаў. Я на тысячу працэнтаў згодны з тым, што трэба "правесці такую працу, каб вярнуць кожнаму забітаму, закатаванаму, прыніжанаму яго добрае імя". У той жа час я не разумею, чаму ўлады не рассакрэчваюць усе архівы, скажам, тых ужо далёкіх трыццатых гадоў, хаваюць імёны рэальных катаў. Нельга чытаць без хвалявання ў кнізе Святланы Алексіевіч "Время сэконд-хэнд" споведзь аднаго такога ўблюдка: "...Ставишь человека на колени – выстрел почти в упор в область левого уха... Рука к концу смены висела как плеть... У нас был план... Рев, мат с обеих сторон. Море крови. После смены нам приносили два ведра: ведро водки и ведро одеколона. Одеколоном мылись до пояса. Запах крови едкий. У меня была овчарка, так после работы она ко мне не подходила... Вручали нам грамоты «за выполнение специального задания партии и правительства», за то, что «делу Ленина–Сталина преданы».

Міжволі ўзнікае пытанне: а ці павінны ведаць пра катаў іх дзеці, унукі, праўнукі? Я лічу, што павінны. Я ж ведаю, за што мой бацька ў гады вайны атрымаў два ордэны Чырвонай Зоркі і шмат медалёў. А чаму, скажам, сусед, бацька якога за дзень расстрэльваў у турме па 20–30 чалавек, не павінен ведаць, за што ўзнагароды ў яго? Даўно наступіў час сказаць ПРАЎДУ, якой бы горкай яна ні была. Такіх "герояў", як бацька майго суседа, павінны ведаць іх дзеці, унукі, праўнукі. Ведаць для таго, каб яны маглі маліцца за забітых, рэпрэсаваных з тым, каб страшэнны грэх іх продкаў не перадаўся ім.

Напрыканцы свайго роздуму мне хочацца прывесці кранальныя словы вядомага рускага пісьменніка Данііла Граніна: "*Все самые страшные трагедии человечества связаны не только с именами кровавых тиранов-человеконенавистников, а и с толпами их прислужников!!! Да, сатрапы ужасны, но во сто крат ужаснее люди, готовые за умеренную плату исполнять приказы тиранов. Институт тирании не менее отвратителен, чем институт рабства.*

*Человек рожден быть свободным, рожден иметь собственное мнение и не к лицу человеку становиться рабом, пусть даже и хорошо оплачиваемым*».

**Піліп АНТОНАЎ, жыхар г.Рагачова Гомельскай вобласці.**

**P.S.** Вельмі прашу рэдакцыю надрукаваць гэты мой артыкул, які я пісаў у пакутах.

З НАГОДЫ

# Светлай памяці Гадлеўскага

Ужо мінула 30 гадоў, калі мне ўпершыню трапіла пазнаёміцца з асобай выбітнага дзеяча Беларусі мінулага стагоддзя, ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага. Мяне як мастака надзвычай шмат што ў ім неверагодна прыцягвае і зараз. Ягоную асобу мне давялося выявіць у некалькіх творах жывапісу. Таксама мною, сумесна з актывістамі клуба «Спадчына» ў сярэдзіне 1990-х быў усталяваны крыж у Трасцянцы на месцы яго верагоднай гібелі. Пазней выканаў арыгінальную мемарыяльную кампазіцыю з дуба, сумесна з Ю.Камандзірчыкам, якую змясцілі на сцяне хаты, дзе ён нарадзіўся.

Нечакана ў адной з кнігарняў Мінска трапіла ўгледзець новую кніжыцу аб гэтым неверагодна мужным і мудрым дзеячы, як і адданым барацьбіту за адраджэнне нашага народа. Аўтар яе Андрэй Вашкевіч у серыі «Беларускія жыццяпісы» яскрава, выразна і займальна прадстаўляе гэту асобу. Ён паслядоўна раскрывае кругі ягонага пакручастага жыцця, напоўненага як спасціжэннем нацыянальнай ідэі, так і яе ўвасабленнем. Ці тое тычыцца рэлігійнай, ці культурніцкай, ці грамадзянскай дзейнасці. Дзіву даешся, дзе ён ужо знаходзіў столькі энергіі і вытрымкі, каб у непахіснасці супрацьстаяць усяму шаленству цемрашалаў як з Захаду, так і з Усходу.




Асаблівую ўвагу аўтар кнігі «Вінцэнт Гадлеўскі» надае вызначэнню трагічнай гібелі гэтай пакутніцкай асобы, што на сённяшні дзень з'яўляецца надзвычай актуальным. Даволі падрабязна і хвалююча прадстаўляюцца ім сем версій, разам з недарэчнай С.Горбіка (міфічнай асобы), дзе ніводная з іх цалкам не можа быць прынятай.

У сувязі з гэтым мушу прапанаваць як чытачам, так і аўтару кнігі яшчэ адну даволі пераканаўчую версію. Няхай яна будзе дадаткам да сямі папярэдніх, што, спадзяюся, дапаможа паставіць кропку і закрыць пытанне. Так, у кнізе Лявона Юрэвіча «Шматгалосы эпісталярыум» (серыя «Бібліятэка Бацькаўшчыны»), у раздзеле «Ліставанне К.Акулы і В.Чабатарэвіча» на старонках 254–257 прадстаўлена даволі канкрэтнае, калі не вычарпальнае, тлумачэнне трагічнай гібелі гэтага бездакорнага і нязломнага патрыёта нашага народа.

Згодна з гэтым лістом Чабатарэвіча, вынікае, што ксяндза выдаў гестапа мінскі настаўнік Пётра Кісель, які належаў да давераных людзей Гадлеўскага, але адначасна быў савецкім партызанам і ад іх меў загад знішчыць Гадлеўскага нямецкімі рукамі. Пазней ён быў расстраляны тым жа гестапам за сувязь з савецкім падполлем. Аўтар ліста прапануе звярнуцца да артыкула А.Пякарскага «Сумная гадавіна» ў газеце «Бацькаўшчына» за №51-52 (130–131) за 25.12.1952 г.).

Усё гэта дужа цяжка чытаць, усведамляючы тую вірлівую рэчаіснасць, але што зробіш – Праўда, яе не схаваеш!

**Алесь ЦЫРКУНОЎ, мастак, сябар суполкі "Пагоня".**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
20 ліпеня 2018 г.

ФАКТ

## В Конгресс США внесен законопроект о санкциях против «Северного потока-2»

*Санкции против газопровода позволят странам НАТО избежать политических манипуляций со стороны России, заявил сенатор от штата Вайоминг Джон Баррасо.*

«Такие страны, как Германия, должны сокращать объем природного газа, который они покупают у России, а не повышать его», – заявил Джон Баррасо. Ранее с критикой «Северного потока-2» также выступал президент США Дональд Трамп, который заявил, что Германия стала «заложницей» России.

В конце июня источник Reuters в Министерстве экономики Германии заявил, что США заверили министерство, что не будут вводить санкции против подрядчиков строительства газопровода.

Ожидается, что «Северный поток-2» может быть введен в эксплуатацию до конца 2019 года. Разрешение на его постройку выдали власти Швеции, Финляндии и Германии. Против проекта активно выступают страны Балтии, Польша, Украина и США.

СЛЫШАЛИ?

## Иерусалим – единая и неделимая столица Израиля

*Кнессет, парламент Израиля, принял закон, согласно которому Израиль отныне является еврейским государством. Дебаты продолжались более восьми часов.*

В рамках закона среди прочего понижается статус арабского языка, до сих пор бывшего одним из официальных языков страны.

В законе также говорится, что Иерусалим – единая и неделимая столица Израиля.

Арабские депутаты Кнессета осудили этот закон, но премьер-министр Биньямин Нетаньяху назвал его принятие поворотным моментом.

Согласно новому закону, поддерживаемому правительством страны, Израиль – историческая родина еврейского народа, обладающего исключительным правом на национальное самоопределение на этой территории.

Дебаты в Кнессете были бурными и продолжались более восьми часов. За законопроект проголосовали 62 депутата, против – 55.

Однако некоторые статьи законопроекта были удалены из его окончательной версии из-за критики со стороны президента и генерального прокурора Израиля. Так, одной из статей предполагалось узаконить создание чисто еврейских районов или городков.

Арабы составляют около 20% девятимиллионного населения Израиля.

Согласно существующему законодательству, арабы пользуются всеми правами граждан Израиля, но при этом они часто жалуются на дискриминацию и на то, что государство тратит меньше на социальные нужды их общин в таких сферах, как образование, здравоохранение и предоставление жилья. По их словам, арабы в Израиле часто ощущают себя гражданами второго сорта.

Арабский депутат Кнессета Ахмед Тиби назвал принятие закона о еврейском государстве кончиной демократии в стране.

Неправительственная организация «Адала», защищающая права арабского населения, назвала новый закон попыткой достичь этнического превосходства при помощи расистской политики.

На прошлой неделе Биньямин Нетаньяху выступил в поддержку закона. *«Мы будем и дальше обеспечивать гражданские права в израильской демократии, но у большинства тоже есть права, и большинство принимает решения»,* – сказал премьер-министр.

ТРАНЗИТ

## Из Киева в Ригу через Минск

Осенью этого года Украинские железные дороги планируют протестировать новый пассажирский маршрут из Киева в Ригу через Минск и Вильнюс, сообщил на днях украинский министр инфраструктуры Владимир Омельян на заседании литовско-украинской межправительственной комиссии по торгово-экономическому сотрудничеству, которое проводилось в понедельник и вторник.

Первый рейс из Киева по этому маршруту запланирован 28 сентября.

Вначале поезд будет курсировать один раз в неделю.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Анатоль СКРЫПКО:

# «У Польшчы атрымліваю ў тры разы больш, чым беларускія калегі»

*Вядомы беларускі трэнер і навуковы работнік ужо 14 гадоў працуе ў суседняй краіне.*

Прафесар **Анатоль СКРЫПКО** – аўтар соцень прац, дзясяткаў кніг і патэнтаў. Раней ён быў загадчыкам кафедры фізвыхавання ў Інстытуце сучасных ведаў у Мінску, доўгі час выкладаў на такой жа кафедры ў былым Беларускім політэхнічным інстытуце. У свой час вырашыў пераехаць у Польшчу і ні аб чым не шкадуе. Зараз ён – загадчык кафедры спартыўных гульняў Познаньскай акадэміі фізвыхавання ў горадзе Гожув-Велькапольскі.

Днямі Анатоль Дзмітрыевіч завітаў у рэдакцыю «Народнай Волі» і пачаў… з футбола.

– Паглядзеў чэмпіянат свету, які не так даўно завяршыўся, і параўнаў гульню ўдзельнікаў першынства з беларускімі футбалістамі, – кажа суразмоўца. – Што тут сказаць? Неба і зямля! А я яшчэ 20 гаду таму прапаноўваў нашым футбольным трэнерам свае метадычныя напрацоўкі. І, наколькі мне вядома, толькі тры спецыялісты – Міхаіл Вяргеенка, Сяргей Бароўскі і Аляксандр Башмакоў – імі зацікавіліся. Астатнія не захацелі прымаць маю канцэпцыю, таму што, напэўна, хочуць гуляць, як некалі сказаў Анатоль Байдачны, “на першынстве вадакачкі”. Відаць, гэта іх задавальняе.




**– Вы прапаноўвалі выратавальную методыку для беларускага футбола?**

– Калі прыслухаюцца да маіх прапаноў, то наш футбол можа выйсці на высокі ўзровень ужо праз 13–15 год. Калі коратка, то методыка такая. Найперш – паляпшэнне вучэбна-трэніровачнага працэсу, каб на працягу аднаго падрыхтоўчага сезона значна падняць у футбалістаў бегавую падрыхтоўку і спецыяльную вынослівасць. Другое – адмысловае тэсціраванне ігракоў і выкарыстоўванне спецыяльных трэнажораў, з дапамогай якіх за 3–4 месяцы можна значна павысіць фізічную падрыхтоўку і хуткасць. На чэмпіянаце свету было бачна, што сёння перамагае хуткі футбол. Француз Мбапэ паказаў хуткасць 37 кіламетраў у гадзіну. Гэта значыць, што стометроўку ён прабягаў прыкладна за 10,5 секунды. А ў нашых футбалістаў хуткасныя паказчыкі зусім слабыя.

Таксама я прапаноўваю татальны адбор дзяцей у футбольныя школы. Трэба набраць 5–6 тысяч навучэнцаў, а праз 10–15 гадоў будзем мець каля тысячы высокакласных футбалістаў, якія не будуць нічым уступаць мацнейшым еўрапейскім ігракам. Гэта дасць, дарэчы, і вялікі эканамічны эфект. Што, амаль з 10 мільёнаў чалавек нельга знайсці некалькі таленавітых футбалістаў? А ў нас зараз у футбольных школах проста набор, няма сапраўднай селекцыйнай працы. Вось беларускія футбалісты, як правільна напісала ваша газета, да гэтага часу і боўтаюцца ў сваім балоце.

Акрамя таго, я прапаноўваю адмовіцца ад пакупкі пасрэдных замежных футбалістаў і трэнераў. Яны нічога не далі беларускаму футболу за апошнія 20 год, лепш бы ўзялі за аснову вопыт нашага вядомага трэнера Эдуарда Васільевіча Малафеева.

Дарэчы, у Польшчы я працаваў з некаторымі мясцовымі футбольнымі клубамі, і гэта дало даволі добры вынік.

**– Вы ўжо 14 год працуеце ў Польшчы. Польскія ВНУ моцна адрозніваюцца ад беларускіх?**

– Фармальна нагрузка ў Польшчы для прафесара і выкладчыка ў тры разы меншая, чым у Беларусі. Шмат часу там адводзіцца навуковай працы, гэтым і ацэньваецца твой унёсак у адукацыю.

Таксама варта адзначыць, што ў польскіх студэнтаў вельмі паважлівае стаўленне да выкладчыкаў і добрая дысцыпліна. Навучэнцы зацікаўлены ў атрыманні ведаў, авалоданні камп’ютарам і замежнымі мовамі. Яны нярэдка так і кажуць: “Паважаны пан прафесар, вы для мяне больш важная фігура, чым нават мэр горада, бо даяце веды на ўсё жыццё”. Але некаторыя студэнты маюць індывідуальны графік наведвання заняткаў. Гэта перш за ўсё спартсмены высокага класа і тыя, хто вучыцца адразу на двух факультэтах, такое ў Польшчы дазваляецца.

Хаця, безумоўна, здараліся і казусныя гісторыі са студэнтамі. Неяк тэлефануе адзін малады чалавек і кажа: “Пан прафесар, мне патрэбна здаць вам экзамен”. – “Прыходзьце і здавайце”. – “Дык я на вакзале, у мяне праз паўгадзіны цягнік”. – “Вы што, – кажу яму, – наогул ужо страх згубілі, студэнт? Прафесар павінен ехаць на вакзал, каб экзамен у цябе прыняць!”

**– Колькі доўжыцца навучанне ў вашай акадэміі?**

– Пяць год. Але пры гэтым выпускнікі атрымліваюць дыплом магістра, а ў Беларусі спачатку трэба закончыць ВНУ і толькі затым паступаць у магістратуру.

Дарэчы, конкурсу пры паступленні наогул няма, бо абітурыентаў не хапае. Гэта звязана з тым, што высокая канкурэнцыя ўніверсітэтаў у рэгіёне па спецыялізацыі фізічнага выхавання і спорту. У радыусе 100 кіламетраў – тры такія ВНУ. Таму залічваюць абітурыентаў толькі на падставе пададзеных дакументаў. Прымаюць нават замежных студэнтаў, зараз у нас, напрыклад, вучацца некалькі ўкраінцаў.

**– А ці шмат трэба плаціць за вучобу?**

– У нашай ВНУ і іншых установах, якія не з’яўляюцца прыватнымі, навучанне цалкам бясплатнае. А вось завочнікам трэба плаціць, хаця не ведаю дакладна, якія там расцэнкі. Дарэчы, нават падчас вучобы ў прыватнай ВНУ студэнты атрымліваюць стыпендыю.

**– Які яе сярэдні памер?**

– У залежнасці ад паспяховасці студэнта, яго грамадскай і спартыўнай актыўнасці стыпендыя можа дасягаць 200 долараў. І для студэнтаў, і для выкладчыкаў існуе сістэма балаў, якія затым сумiруюцца і пераўтвараюцца ў матэрыяльныя бонусы. Напрыклад, выкладчыкі ў дзяржаўных ВНУ напрыканцы года заўсёды маюць трынаццаты заробак. Пры гэтым атрымліваюць усе – і прафесары, і лабаранты... Акрамя таго, кожныя пяць год мы маем прыстойную прэмію – да трох месячных акладаў.

**– Калі не сакрэт, то якія заробкі ў польскіх выкладчыкаў?**

– Асноўны заробак – ад 800 да 1500 долараў, у залежнасці ад твайго навуковага статуса. Наколькі мне вядома, беларускія калегі атрымліваюць прыкладна ў тры разы менш. Добра, калі 500 долараў у месяц маюць. Але ж у Польшчы, як ужо казаў, ёсць яшчэ шмат дадатковых бонусаў. Трэба сказаць, што там увогуле ўзровень жыцця падняўся апошнім часам. Мяне часам пытаюць: “Як вы ў Беларусі жывяце?” Я адказваю так: “Больш бедна, чым палякі, затое ў нас больш чыста”. А ў польскіх гарадах і на самай справе з гэтым ёсць праблемы. Не хочуць палякі працаваць дворнікамі за 300 долараў у месяц.

**– Жыллё вы ў горадзе здымаеце?**

– Акадэмія прадаставіла службовую кватэру, хаця за яе трэба плаціць каля 120 долараў у месяц. Гэта не вельмі шмат. А калі б жыў у інтэрнаце, то і наогул плаціў бы ў два разы менш.

**– Анатоль Дзмітрыевіч, а ці шмат беларускіх выкладчыкаў працуе ў Польшчы?**

– Калі ты добры спецыяліст, маеш навуковыя працы, то патрапіць на працу ў польскую ВНУ можна. Хаця я ведаю, што ў нашай спартыўнай галіне беларускіх выкладчыкаў не вельмі шмат. Спецыялістаў бяруць, але толькі тых, хто мае доктарскую вучоную ступень. У Польшчы, каб адкрыць нейкую спецыяльнасць у ВНУ, патрэбна 5–6 дактароў навук. У Беларусі – значна менш.

**– Літоўцы наракаюць на тое, што моладзь не застаецца працаваць у роднай краіне, а з’язджае на заробкі ў краіны Еўрасаюза. А наколькі складана польскім выпускнікам знайсці дома працу?**

– Ведаю, што ў маладых выкладчыкаў фізкультуры ёсць праблема з працаўладкаваннем у школах па той простай прычыне, што няма вакантных месцаў. Але ж заўсёды ёсць магчымасць на нейкі час знайсці іншую працу. Людзі працуюць у турыстычных фірмах, зараз фізкультурныя ВНУ Польшчы сталі пашыраць медыка-біялагічныя спецыяльнасці. А вось на трэнерскія факультэты наборы, наадварот, змяншаюцца.

Дарэчы, калі няма працы ў Польшчы, то чалавек можа лёгка знайсці працу ў любой іншай краіне Еўрасаюза. Да Берліна ад нашага гарадка – 120 кіламетраў. І праца там маецца, і заробак вышэйшы. Трэба толькі дасканала ведаць замежную мову.

**– Колькі часу ў год вы праводзіце ў Польшчы?**

– 220–230 дзён працую за мяжой, а астатні час знаходжуся дома альбо на адпачынку. Акрамя таго, шмат выступаю з лекцыямі на канферэнцыях у розных ВНУ краін Еўрасаюза. Перадаю свой вопыт і метадычныя напрацоўкі. І, безумоўна, працягваю займацца навуковай працай.

**– Няма жадання вярнуцца дадому і працаваць зноў у беларускіх ВНУ?**

– Я пэўны час супрацоўнічаў з кафедрай фізвыхавання БДУ, але гэта займала шмат часу, таму адмовіўся. А вяртацца на сталую працу ў Беларусь таксама няма сэнсу. Пакуль мяне цэняць у Польшчы, паважаюць там і даюць высокааплачваемую працу.

**Алесь СІВЫ.**

*Фота аўтара.*

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ

## Зюзя



Мама апранае сыночка ў цёплае футра, хавае ручкі ў цёплыя рукавічкі і толькі тады вядзе на вуліцу, дзе пануе мароз. На сынава пытанне, чаму трэба так апранацца, адказвае, што на двары Зюзя, а ад яго трэба бараніцца. І ўжо сярод белых снежных гурбаў мама расказвае пра таямнічага і загадкавага Зюзю.

Даўным-даўно, калі на нашай зямлі яшчэ не было праваслаўных цэркваў, нашы прашчуры пакланяліся язычніцкім багам. І калі іншых багоў шанавалі многія славяне, то бога зімы і холаду Зюзю ведалі толькі на беларускіх землях. Як зазначае вядомы даследчык П.Шпілеўскі, імя «халоднага» бога паходзіла ад слова «зюзець», гэта значыць мерзнуць, калець ад марозу.

Ад гэтага, відаць, пайшло яшчэ адно слова – «акалець», што значыла памерці, ахалодаць, страціць жыццёвую сілу. Лічылася, што зіма з усім сваім воінствам прыязджае на зямлю на пярэстых кабылах альбо на ваўках. Пасля яна становіцца на ногі і пачынае сваю сцюдзёную справу: скоўвае зямлю, будуе на рэчках ледзяныя масты, ажно да неба дабіраецца, дзе ад холаду дрыжаць нават зорачкі.

Па-рознаму ўяўлялі людзі Зюзю. Але ўсе, бадай, сыходзіліся на тым, што гэта стары тоўсты дзед. Нізенькага росту. У яго белыя, як снег, валасы і такая ж белая і доўгая барада. Паназірайце калі-небудзь, як апускаюцца з неба мяккія сняжынкі, як кружацца яны ў бясконцым танцы. Гэта бог зімы Зюзя ціхім снегавеем плыве над зямлёй. Здаецца, нябачны дзед сваёй пушыстай барадой замятае ўсе сцежкі і дарожкі, атуляе снегам дрэвы ў лесе і садзе, насыпае высокія гурбы, выраўноўвае палі і лугі.

І вось дзіва: гэты стары не зважае на мароз – чым ён мацнейшы, тым яму лепш. Ходзіць па сыпкім снезе босы, без шапкі – і радуецца. Здагадаліся чаму? Дык ён жа сам мароз і холад, каго яму баяцца? Апрануты Зюзя ў доўгае белае футра. Блукае па белым свеце з вялізнай жалезнай булавою ў руцэ. Калі нехта разззлуе яго, так стукне булавою ў пень, што несціханы гул да неба далятае, а пень на дробныя трэсачкі рассыплецца. Вось тады і пачынаюцца самыя маразы. Таксама траскучыя. Калі ў такім настроі Зюзя з’явіцца ў вёсцы, то і там наступае халадэча. Ходзіць Зюзя дзе хоча, пагруквае булавою па дрэвах, па платах, а то возьме і з усёй сілы смальне ў сцены хаты.

Асабліва любіць гэткія забавы светлымі зорнымі начамі. Бярвенне ў сценах тады пачынае трэскацца з такім гукам, як быццам нехта страляе. Калі хлапчук ці дзяўчынка спытаецца, хто гэта, бацькі адказваюць: «Гэта сам Зюзя стукае. Бог холаду ўшчувае людзей». На рэках і азёрах, на самых багністых балотах разам з ледзяным Дзедам Марозам будуе Зюзя масты. Каб праверыць іхнюю надзейнасць, у абдымку ходзяць пасля па лёдзе, Зюзя стукае па ім булавою: ажно крэхча ды стогне пад імі тоўсты лёд, але вытрымлівае.

Здараецца, цэлай зграяй лютых ваўкоў рассыпаюцца па зямлі Зюзевы служкі – завея ды мяцеліца, кудаса ды завіруха, дзікім завываннем да жаху даводзяць малых і старых, а вецер такі, што не зразумець – гэта ён у комінах падвывае ці чэрці скуголяць. Найбольш моцныя маразы нахопліваліся перад Новым годам і Калядамі. Яшчэ раз лютаваў Зюзя напрыканцы зімы. Ці не таму апошні зімовы месяц назвалі лютым: «Пытаецца люты, ці добра абуты»?

Любімым месцам побыту для Зюзі з’яўляецца лес. Утульна яму тут, весела і звыкла, паветра марознае і здаровае, ёсць з кім забавы ладзіць. Зайчыкі, якія змянілі шэрае адзенне на белае – гэткае ж, як і ў Зюзі, у хованкі з ім гуляюць. Вавёркі займальныя казкі расказваюць, а самі смакавітыя арэхі лускаюць, сухімі грыбамі ласуюцца. Загуляецца Зюзя ў лесе і забудзецца пра людзей, не даймае іх сцюжай.

Кажуць, што ў вёсцы Зюзя з’яўляўся толькі дзеля таго, каб папярэдзіць сялян пра суровую зіму. Шанаваў, выходзіць, бог холаду добрых людзей, не меў ахвоты дарма пацвельвацца ды насміхацца. Каб падвесяліць іх, возьме і ўпрыгожыць дрэвы бялюткім іскрыстым інеем, а пасля папросіць вецер, каб патрос іх. І сам радуецца, калі мірыяды яркіх блёстак плаваюць у паветры, ззяюць на сонцы каштоўнымі крышталікамі.

Калі ж на некага засярдуе, то можа адмарозіць палец, нос, руку ці нагу, можа выстудзіць хату. Часам да самых костачак прабярэ, усю кроў застудзіць, а тады адпусціць небараку, каб помніў пра Зюзеву дабрыню. Апамятаецца чалавек, а Зюзі ўжо і след прастыў. Калі ж сустрэне каго на добрым падпітку, можа да смерці замарозіць. Ператворыцца тады ў вялікага снежнага мядзведзя, нападзе на чалавека, сцісне ў абдымках, паваліць на зямлю і прыціскае, пакуль той не зледзянее.

Каб не злаваць «халоднага» бога, людзі стараліся задобрыць яго. Асабліва любіў Зюзя куццю. Цёмнымі марознымі калrighтнымі начамі прыходзіў у вёску, зазіраў праз шыбы ў хату, шукаў на сталах свой любімы наедак. Яму і дагэтуль пакідаюць на стале трошкі куцці. Пры гэтым прыгаворваюць: «Зюзя на двары – куцця на стале». Часам кідаюць першую лыжку каляднай кашы за акно і клічуць ягонага служку: «Хадзі, мароз, куццю есці». Падсілкаваўшыся, у падзяку за чалавечую шчодрасць Зюзя пакідаў на аконным шкле прыгожыя ўзоры, вымалёўваў розныя зімовыя кветкі.

Нашы землі прыйшліся Зюзю пад густ. Так спадабаліся, што вырашыў пасяліцца на іх. Выбраў самы прыгожы куточак і змайстраваў сабе рэзідэнцыю. Знаходзіцца яна каля вёскі Пруднікі, што ў Пастаўскім раёне на Беларускім Паазер’і. А таму і прозвішча сабе ўзяў адпаведнае – Зюзя Паазерскі.

Але на Грамніцы, 15 лютага, бог Сонца Ярыла разгоніць хмары, выпусціць на волю цяпло. Не вытрымае тады Зюзя, пральe першую слязу, якая дробнымі кропелькамі асядзе на аконным шкле. Людзі ж сачылі: калі на Грамніцы певень нап’ецца вадзіцы, то на Юр’я (6 мая) вол наесца травіцы. У дзень веснавога сонцавароту – 21 сакавіка – на сваю вахту заступае «цёплы» бог Ярыла, а Зюзя пачынае змятаць з нябесных палацаў апошні снег, збірацца ў далёкую дарогу, каб да наступнай зімы сілы набрацца.

УСПАМІНЫ

# АКУПАЦЫЯ

(чэрвень 1941 – ліпень 1944 г.)



Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук

*Прысвячаю землякам-магілянам часоў вайны і нямецкай акупацыі.*

*(Працяг. Пачатак у №№31–56.)*

## Першыя весткі ад магілян-франтавікоў

У гады акупацыі ў жыхароў Магільнага амаль цалкам адсутнічала ўсялякая перапіска з блізкім і далёкім светам. Выгнанне акупантаў ізноў аднавіла яе. Весткам ад сваіх родных з фронту людзі так былі рады, што пісьмы ад іх зачытвалі да дзірак. Паколькі далёка не ўсе былі пісьменнымі, таму не маглі прачытаць пісьмо і прасілі, каб гэта зрабіў хтосьці з адукаваных людзей. Я быў рад, калі з такой просьбай звярталіся да мяне. Амаль для кожнага пісьма былі характэрны высокі савецкі ваенны патрыятызм, цвёрдая ўпэўненасць у хуткай перамозе над ворагам.

Дваякае пачуццё ад азнаямлення з тэкстам атрыманага пісьма ўзнікла ў Тані Лыч (па-вулічнаму Давыдкава). Тое, што яе муж Іван жывы, – радавала, а вось, што ён стварыў у савецкім тыле (у Архангельскай ці Мурманскай вобласці) новую сям'ю, мае ад другой жонкі двое дзяцей, прывяло жанчыну ў роспач. Высветлілася, што муж быў цяжка паранены і яму ампутавалі нагу. Увесь час лячэння знаходзіўся пад пільным наглядам клапатлівай медсястры, якая так пакахала свайго "падапечнага", што не пажадала развітацца з ім і пасля выпіскі са шпіталя. Яны пабраліся шлюбам. Іван меў падставы апраўдваць свой учынак перад першай сям'ёй вялікімі сумненнямі, што жонка і пяць дзяцей маглі застацца ў жывых у цяжкіх умовах нямецкай акупацыі. Але ж пасля вызвалення нашай зямлі не стрываў і выслаў пісьмо на адрас першай жонкі. Праўда, ніякай надзеі на вяртанне да яе не даваў, і такога паміж імі не адбылося. Таня Лыч у нялёгкіх умовах вайны і пасляваеннага часу адна гадавала пяцярых дзяцей. Аднаго з іх, самага старэйшага з сыноў Юру, страціла: па невядомых прычынах памёр у дзесяцігадовым узросце, будучы нанятым за пастуха гаспадаром аднаго з хутароў на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі. Лёс Івана Лыча невядомы, хаця ў Магільным была ў яго немалая радня. Не выключана, што сёння яго нашчадкі носяць дзесьці ў паўночным рэгіёне Расійскай Федэрацыі тыповае беларускае прозвішча Лыч з магільнянскімі каранямі.

## У мястэчка завітаў франтавік-зямляк

З тых, каго на пачатку вайны мабілізавалі ў войска, першым з'явіўся ў Магільным яшчэ ў час вайны наш сусед Сяргей Лыч. Праўда, за два-тры гады да вайны ён стварыў новую сям'ю і жыў амаль у канцы мястэчка, але нас лічыў за суседзяў і таму завітаў у хату. Даведаўшыся, што яе гаспадара ўжо няма ў жывых, наш госць шчыра праслязіўся. І яму было за што праслязіцца. Як малады даваенны камуніст Сяргей Лыч лічыў за свой партыйны абавязак усялякімі сродкамі дапамагаць людзям пазбаўляцца ад шкодных перажыткаў дарэвалюцыйнага часу. Калі дзесьці ў 1939-м ці 1940 годзе мы з татам павольна з-за яго хворых ног ішлі ў пякарню пілаваць дровы, нам насустрач трапіў дзядзька Сяргей.

– Міхась, – бадзёра прамовіў ён, – чаго гэта ты так марудна, як не сваімі нагамі, ідзеш на працу?

– А хто гэта спяшаецца на паншчыну? – быў дадзены адказ.

Гэтых слоў сталася дастатковым для Сяргея, каб яму, маладому камуністу, зрабіць прынцыповую бальшавіцкую выснову. Нічога не кажучы, ён хуценька пакінуў нас і падаўся ў сельскі савет, каб пачутае ад свайго сябра дзяцінства суседа выкласці на паперы. Не паспелі мы і з паўгадзіны папрацаваць на дрывяным двары хлебапякарні, як па тату прыйшоў пасланец з сельскага савета. Тут іх чакалі старшыня і Сяргей. Як толькі тата пачаў не без страху гаварыць штосьці ў сваё апраўданне, у памяшканне сельскага савета без стуку ўвайшоў вельмі ўплывовы сярод местачкоўцаў дырэктар няпоўнай сярэдняй школы Юк (імя не памятаю). Даведаўшыся са слоў Сяргея, у чым справа, стаў сарамаціць таго за такі неапраўданы данос на зусім не вінаватага чалавека. Даносчык, як успаміналі, тады нічога не сказаў у сваё апраўданне, забраў сваю пісаніну назад і першым выйшаў з памяшкання сельскага савета. Дырэктар школы настойліва рэкамендаваў старшыні не караць майго тату, спасылаючыся на тое, што ён хворы, мае пяць дзяцей, з якіх трое вучацца ў школе і вучацца добра. Асабліва пахваліў мяне. Тату за "паншчыну" і сапраўды не пакаралі, в вось з Сяргеем у іх ужо не было ніякіх кантактаў.

Сяргей пра сваю віну перад маім татам не забываўся і ў гады вайны, знаходзячыся ў далечыні ад Магільнага. Таму, завітаўшы на радзіму ў канцы лета 1944 года, ён пажадаў у першую чаргу сустрэцца з Міхасём, каб за сталом папрасіць прабачэння за свой доўгі язык. Мы даравалі Сяргею і па-добраму развіталіся, чаму ён быў вельмі рады. Тая сустрэча з дзядзькам Сяргеем у мяне была не апошняй, хаця пасля вайны яны не жылі ў Магільным. Праз два-тры гады сустрэліся ў раёне станцыі Мінск-Таварная ў сталоўцы, якой ён загадваў. Даведаўшыся, што я студэнт і, значыцца, чалавек бедны, прасіў часцей наведваць гэтую сталоўку, дзе буду харчавацца за паўцаны ці бясплатна. Прапанова прываблівала, і я некалькі разоў, але не больш за пяць, скарыстаўся запрашэннем, палічыўшы, што гэтага дастаткова, каб зняць з дзядзькі Сяргея ўсялякую віну перад маім татам.

## Сеялі індывідуальна – жалі калгасам

Працы на сенажаці істотна зацягнуліся, на што былі свае прычыны. Галоўная з іх, несумненна, – гэта прызыў у армію мужчын самых працаздольных узростаў. З косамі на лузе ўвіхаліся пераважна падлеткі, мужчыны сталага веку, а таксама некаторыя жанчыны. Не было роўных сярод іх нашай суседцы Парасцы Лыч (па-вулічнаму Шамракова). Штодзённа яна скошвала сярэднюю мужчынскую норму.

Заставалася мо на два-тры дні працы на Вялікім лузе. Як ні ў чым не бывала, людзі позна ўвечары вярталіся дамоў. І іх ужо пры самым уездзе ў Магільнае сустрэлі нярадаснай весткай: "А ў нас аднавілі калгас". Мала каму хацелася верыць у гэта. Але яно і на самай справе было так.

Раённае начальства Вузды, укамплектаванае адразу пасля вызвалення амаль цалкам нядаўнімі партызанамі, добра ведала пра антыкалгасныя настроі мясцовага насельніцтва. Таму паўторную калектывізацыю праводзілі ў абедзенны перапынак, калі дома заставаліся дзеці, старыя і зусім не звязаныя з працай у грамадскай сельскагаспадарчай вытворчасці людзі. Апошніх у Магільным, як мястэчку, было нямала. Яны і вырашылі, быць ці не быць калгасу.

Рэакцыя на аднаўленне калгаса была крайне адмоўнай, хаця і насіў ён імя бацькі ўсіх савецкіх народаў Сталіна. Асаблівую незадаволенасць выказвалі самыя заможныя, найбольш руплівыя гаспадары. Назаўтра проста без усялякай агітацыі людзі ўзялі і не пайшлі на працу, хаця сенажаць вельмі прыспешвала іх. На кожнай вуліцы мястэчка ўтварылася па некалькі натоўпаў, адзінай тэмай было аднаўленне калгаса. Невядома, колькі дзён цягнуўся б той стыхійны пратэст, калі б не ўмяшаліся сельсавецкае начальства і яго актыў. Дзейнічалі ж яны даволі актыўна, бо за іх спінай стаяў райцэнтр Вузда. Меркаванні пачалі раздвойвацца. За калгас сталі выступаць галоўным чынам сем'і, дзе хтосьці з'яўляўся камуністам ці членам ужо створанай у мястэчку камсамольскай арганізацыі.

На другі дзень на сенажаць з'явілася добрая палова агульнай колькасці дарослых жыхароў. Сярод іх не было відаць толькі самых заможных гаспадароў: падаліся ў вёскі колішняй Заходняй Беларусі і там збывалі за бясцэнак сваіх коней разам з вупражжу і павозкамі, сельскагаспадарчы інвентар. Калі пазней усё гэта астатнія людзі здавалі ў калгас, багатыя гаспадары толькі разводзілі рукамі, тлумачачы, што каня з вупражжу і павозкай, сельгасінвентар бралі ў "заходнікаў" у арэнду. Якога-небудзь пакарання яны не панеслі. Наша сям'я здала ў калгас усё, што ад яе патрабавалася. Да атрыманага ад чырвонаармейцаў у абмен каня ў мяне асаблівай сімпатыі не было з-за пашкоджанага па яго віне майго падбародка.

Мясцовае начальства загадала жніво праводзіць калектыўна і звозіць снапы ў калгасныя гумны, якіх не закранулі вайна і акупацыя. Балела на сэрцы людзей, калі назіралі, як з іх загона падвода за падводай вязуць снапы на калгасны двор. Не раз даводзілася мне бачыць слёзы на твары мамы. Я трымаўся стойка, бо лічыў, што працую на фронт, набліжаю перамогу над ворагам. Згадваючы недалёкія перадваенныя гады, калі на працадні давалі толькі мізэрную колькасць выробленай прадукцыі, людзі вырашылі засцерагчы свае сем'і ад голаду. Карыстаючыся адсутнасцю пільнага нагляду, яны непрыкметна ад іншых абівалі аб кола воза ці якога-небудзь дрэва снапы з найбольш спелымі і тоўстымі каласамі, пакідаючы іх столькі, каб не выклікаць падазрэння. Атрыманае такім чынам збожжа дзеці торбачкамі насілі дамоў. Мы такой антыкалгаснай практыкай займаліся ў самых мінімальных памерах, бо лічылі, што багатыя запасы збожжа папярэдняга сельскагаспадарчага года не прывядуць да голаду. Да таго ж абяцалі, паколькі ў нас сядзіба пры доме займала толькі крыху больш за дзесяць сотак, выдзеліць за кошт калгаса 20 сотак засаджанага бульбай поля. Максімальна бралі прыродныя дары ў лесе. Калі мая старэйшая сястра Ліда працавала на калгасным полі, Ада з Генем вандравалі па лесе, прычым у ролі вядучага выступаў апошні: пайшоў жа дзясяты год.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

ВЕДАЙ НАШЫХ!

# Незвычайны мільянер з Мазыра

*Днямі інфармацыйныя стужкі абляцела інфармацыя: беларус Мікіта Бадзякоўскі прайграў у покер 1 мільён долараў. Праўда, не ўсе ведаюць, што за сваю покерную кар'еру 26-гадовы хлопец выйграў сумму амаль у 11 мільёнаў долараў ЗША. І гэта, што называецца, яшчэ не фінал…*



## З шахмат – у покер

Прафесійных і паспяховых гульцоў у покер, якія могуць дазволіць сабе патраціць на гульню дзясяткі, а то і сотні тысяч долараў, не так і шмат. Але гэтыя людзі ў нашай краіне ёсць. Шэсць гадоў таму, у жніўні 2012-га, мінчанін Мікалай Пабаль выйграў 1 мільён і 7 тысяч еўра, заняўшы першае месца ў галоўным турніры Еўрапейскага покернага тура ў Барселоне. На слыху тых, хто цікавіцца покерам імёны беларусаў Вадзіма Хурсевіча, Ігара Сойкі, Кірыла Радзівонава і якраз-такі Мікіты Бадзякоўскага. Менавіта ён на сённяшні дзень прафесійны беларускі пакерыст №1. На сённяшні дзень Мікіта выйграў 10.832.182 долара.

Хто такі Мікіта Бадзякоўскі? Хлопец нарадзіўся ў Мазыры ў 1992 годзе. Там жа пайшоў у звычайную агульнаадукацыйную школу №13. Хлопцу вельмі падабалася і давалася матэматыка. Паралельна Мікіта займаўся шахматамі. У мазырскую СДЮШАР №2 шасцігадовага Мікіту прывёў бацька – кандыдат у майстры спорту па шахматах. У гэтым відзе спорту Мікіта Бадзякоўскі праявіў сябе проста бліскуча. Вось успаміны пра Мікіту ад яго першага трэнера – Рамана Федосенкі:

"Нягледзячы на юны ўзрост было бачна, што ў шахматах Мікіта не навічок. Яму падабалася разбіраць складаныя задачы, гуляць з саапернікамі старэйшымі і мацнейшымі за сябе. Няўдачы толькі закалялі хлопца, прымушалі яго мабілізавацца. А яшчэ Мікіта самастойна працаваў над гульнёй па спецыялізаваных шахматных кнігах".

Поспехі не прымусілі чакаць. У 9-гадовым узросце хлопец стаў чэмпіёнам Беларусі, і ўвогуле выйграваў першынство краіны тройчы. З 12 гадоў Бадзякоўскі стаў вядучым шахматыстам у абласной камандзе. Некалькі разоў Мікіта ездзіў на чэмпіянаты Еўропы. Прафесійна займацца шахматамі хлопец перастаў у выпускным класе. Пасталеўшы, Бадзякоўскі выбраў іншы шлях – кар'еру прафесійнага покернага іграка.

## Шалёныя грошы

Для Мікіты Бадзякоўскага, як і для многіх, хто робіць першыя покерныя крокі, усё распачалося з гульні ў інтэрнэце. Карыстальнікам спецыялізаваных покерных рэсурсаў хлопец вядомы пад нікнеймам fish2013 (на покерным слэнгу бясктыўднае англійскае слова "рыба" з'яўляецца сінонімам не зусім кампетэнтнага іграка. – **Аўт.**). Да Мікіты, гэта канечне, не адносіцца, але такую інтэрнэт-мянушку ён выбраў для сябе самастойна.

Адзін з першых буйных інтэрнэт-поспехаў напаткаў Бадзякоўскага ў 2012 годзе. Тады ў турніры з унёскам у 215 долараў хлопец заняў другое месца і выйграў крыху больш за 164 тысячы долараў. У 2015-м самым буйным грашовым здабыткам для Мікіты Бадзякоўскага стала трэцяе месца ў турніры WCOOP Super High Roller, за якое ён атрымаў 594 тысячы долараў. Плата за ўдзел у спаборніцтве складала 51.000 долараў, а ў мінулым годзе хлопец заняў другое месца ў яшчэ адным інтэрнэт-змаганні з унёскам у 25 тысяч долараў і разбагацеў на 569 тысяч долараў ЗША.

Забяспечыўшы сабе фінансавую падушку бяспекі, Мікіта Бадзякоўскі стаў выбірацца на жывыя турніры, якія праводзяцца ў разнастайных казіно па ўсім свеце.

Самым буйным выйгрышам для беларуса на сённяшні дзень з'яўляецца перамога на турніры **Triton Super High Roller Series Main Event**, які праходзіў у Чарнагорыі. Каб сесці за покерны стол, удзельнікам турніра давялося заплаціць 132 тысячы долараў. Але і прызавы фонд быў унушальным – 7,6 мільёна. За перамогу Бадзякоўскі атрымаў 2.499.185 долараў.

Апошнім месцам, дзе выступаў Мікіта Бадзякоўскі, стаў амерыканскі Лас-Вегас. Там штогод праходзіць самая прэстыжная "жывая" покерная серыя – Сусветная серыя покера. У яе межах і адбываецца адзін з самых дарагіх турніраў The Big One for One Drop. Унёсак для ўдзелу ў ім складае 1 мільён долараў. Бадзякоўскі заняў на ім толькі 18-е месца, не выйграўшы ні капейкі.

Адкуль у людзей такія грошы, спытаецеся вы. У выпадку з Мікітам Бадзякоўскім як раз-такі ўсё больш-менш зразумела – у яго яны ёсць, і ён можа траціць іх, як палічыць патрэбным. А ўвогуле ўдзел у дарагіх покерных турнірах прымаюць людзі, якія могуць сабе гэта дазволіць. Бізнесмены, спартсмены, паспяховыя пакерысты. За покерным сталом, напрыклад, нярэдка можна ўбачыць бізнесмена Гі Лалібэрці – заснавальніка і натхняльніка сусветна вядомага цырка "Дзю Салей". Спрабавалі свае сілы ў покеры і вядомыя спартсмены: футбалісты Раналду і Неймар, тэнісіст Рафаэль Надаль і Барыс Бэйкер. Для апошняга, дарэчы, гэта скончылася не вельмі добра – у праслаўленага спартсмена з'явіліся картачныя запазычанасці.

Яшчэ адзін спосаб у дарагіх турнірах для паспяховых покерных ігракоў – пошук спонсараў, на покерным слэнгу "бэкераў". Іншымі словамі, пакерысты шукаюць спонсараў, якія гатовы ўкласці грошы. Выйгрыш у такім выпадку дзеліцца прапарцыянальна паміж спонсарам і ігракам. Але гэта даволі рызыкоўны від інвестыцый, бо ўкладзеныя грошы могуць быць прайграны.

Вяртаючыся да выйгрышаў беларуса Мікіты Бадзякоўскага, дакладна невядома, куды хлопец укладае выйграныя сродкі. Як кажуць, грошы любяць цішыню. Зразумела, частка з іх ідзе на гульню. Не выключана, што па прыкладзе сваіх калег Мікіта займаецца дабрачыннасцю, але публічна пра гэта не гаворыць.

Аднак наіўна меркаваць, што ўсё да капейкі атрымлівае сам Мікіта. Па-першае, покерныя выйгрышы па ўсім свеце абкладаюцца падаткамі. Раз-пораз пакерыст трапляе пад двайное падаткаабкладанне, заплаціўшы падатак і на месцы правядзення турніру, і затым у сябе на радзіме.

У Беларусі, дарэчы, у адрозненне ад той жа Расіі, покер абсалютна легальны. У краіне працуе Беларуская федэрацыя спартыўнага покера, якая рэгулярна ладзіць турнірныя серыі. Дарэчы, падатак на любы выйгрыш на іх – 13%.

Увогуле, покер – гэта пякельная марафонная праца, якую вытрымліваюць не ўсе. Гэта матэматыка і нервы. Таму стаць такім, як Мікіта Бадзякоўскі, удаецца адзінкам. Гісторый пра разбураныя сем'і, гульнявую залежнасць і вялікія грашовыя пазыкі ў гэтай індустрыі значна больш, чым гісторый поспеху.

Таму, паважаныя чытачы, будзьце разумнымі…

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ЗАПРАШЭННЕ

# Культавыя групы выступяць у Дудутках на фестывалі «Наш Грунвальд»

Музычнае свята на X Міжнародным фестывалі сярэдневяковай культуры і музыкі «Наш Грунвальд» збярэ культавыя калектывы, паведаміў адзін з ініцыятараў і арганізатараў фестывалю **Аляксандр РАК.**

Фестываль пройдзе 21–22 ліпеня ў музейным комплексе ў Дудутках. Галоўнай яго падзеяй стане рэканструкцыя Грунвальдскай бітвы, якая адбылася 15 ліпеня 1410 года паміж войскамі Тэўтонскага ордэна і саюзнікаў – Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага. Будзе і шмат іншых займальных і відовішчных блокаў: турніры, кірмашы, майстар-класы.

"*Кожны год мы арганізуем фестываль унутры фестывалю – гэта музычны опэн-эйр. У мінулым годзе адзін з вакалістаў выказаў ідэю, што ў канцэртнай праграме павінны ўдзельнічаць калектывы, якія будуць прадстаўляць процiборствуючыя бакі. Так з'явілася ідэя ператварыць канцэрт у сімвалічны Грунвальд на сцэне*", – сказаў Аляксандр Рак.

На сцэне будзе каманда **Wizard** – вядомая нямецкая група, якая вельмі папулярна ў Еўропе. Таксама заходні блок прадставіць група з Ірландыі **Cruachan** – сусветна вядомая каманда, якая шмат гастралюе па Еўропе і на іншых кантынентах.

Беларускія калектывы будуць прадстаўлены папулярным **"Стары Ольса"** і даволі маладым **Folclore**, які ўдачна спалучае фолк, сярэдневяковыя матывы і цяжкі метал.

"*І яшчэ будзе хэві-метал група* ***Aillion****. Яе вакаліст Канстанцін Дудараў з'яўляецца рыцарам аднаго з беларускіх клубаў, а таксама адным з заснавальнікаў і кіраўнікоў беларускай майстэрні Steel Legacy па вырабе даспехаў. Яго работы выстаўляюцца і ў Мірскім замку, і ў прыватных калекцыях у ЗША, Аўстраліі. Некаторыя песні групы Aillion напісаны Дзмітрыем Несцюком, адным з заснавальнікаў ваенна-гістарычнага руху ў Беларусі*", – растлумачыў Аляксандр Рак.

Выступяць два госці з Расіі – група **"Млын"** і **"Эпідэмія"**.

Праграма фестывалю "Наш Грунвальд" вельмі насычаная. На працягу двух дзён пройдуць рыцарскія турніры ў пешым страі ў фармаце "шчыт-меч", турнір алебардыстаў і кап'еўшчыкаў, турнір лучнікаў, масавыя баі (бугурты). Яркай падзеяй другога фестывальнага дня стане поўнакантактны конны рыцарскі турнір па правілах XV стагоддзя. Пройдуць майстар-класы па сярэдневяковых танцах і рамёствах, арганізаваны інтэрактыўныя пляцоўкі і "горад майстроў". У гэтым годзе на фестывалі будзе рэканструявана плаўка руды па тэхналогіях IX стагоддзя, адкрыюцца майстэрні па вырабе даспехаў, ліцці ювелірных вырабаў, апрацоўцы каменя, вырабе зброі, ганчарныя і кавальскія майстэрні і многае іншае.

Арганізатарамі фестывалю выступаюць экстрым-тэатр **"Берсерк"**, Аляксандр Рак і музейны комплекс старадаўніх народных рамёстваў і тэхналогій **"Дудуткі"**.

МОШЕННИЧЕСТВО

# Жительнице Лунинца «сняли порчу» за 3 тысячи долларов

В Лунинце цыганка под предлогом снятия порчи выманила у местной жительницы 3 тысячи долларов, сообщила официальный представитель управления Государственного комитета судебных экспертиз по Брестской области **Татьяна СИВИЦКАЯ.**

Инцидент произошел вечером 18 июля. В дом 48-летней жительницы райцентра пришла незнакомая женщина и предложила купить комплект постельного белья. Гостья заявила, что видит несчастье, которое скоро произойдет с дочерью хозяйки. А чтобы избавиться от беды, необходимо провести процедуру очищения с использованием всех имеющихся в доме денег. Хозяйка принесла крупную сумму. После проведения ритуала гостья за услугу потребовала 1 тысячу долларов. Покидая дом, она предупредила, что к деньгам нельзя прикасаться в течение трех суток – якобы только при таких обстоятельствах несчастье обойдет дом. В качестве подарка она оставила комплект постельного белья.

Спустя некоторое время хозяйка заподозрила неладное и пересчитала деньги. Помимо отданных ею тысячи долларов недоставало еще двух тысяч. Женщина обратилась в милицию. На место происшествия прибыла следственно-оперативная группа с участием специалистов Государственного комитета судебных экспертиз. В ходе осмотра дома эксперты обнаружили и изъяли улику в виде следов незнакомки. По базе данных было установлено совпадение с ранее судимой за аналогичные преступления 38-летней жительницей Барановичского района. По горячим следам злоумышленница была задержана. Лунинецкий районный отдел Следственного комитета возбудил в отношении подозреваемой уголовное дело по ч.2 ст.209 (мошенничество) УК.

(БЕЛТА.)

## ПОНЕДЕЛЬНИК, 23 ИЮЛЯ

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 00.25** «Новости».
**07.05, 08.05** «Новости экономики».
**07.10, 08.10, 18.15, 00.05** «Зона Х».
**09.10** «Главный эфир».
**10.20, 12.10, 18.35, 19.20 «Научи меня жить».** Сериал.
**12.50, 13.05, 14.40, 15.25 «Ника».** Сериал.
**15.15, 18.00** «Новости региона».
**17.05** «Армия Беларуси. Летопись столетия».
**21.00** «Панорама».
**21.50** «Специальный репортаж».
**22.10 «След».** Сериал.
**23.45** «Арена».
**00.45** «День спорта».

### Беларусь 2

**07.00** «Телеутро».
**09.00, 18.35, 21.55** «Тэлебарометр».
**09.30, 20.00** «Понять. Простить».
**10.40** «Копейка в копейку».
**11.20** «Камень, ножницы, бумага».
**11.50** «Свидание для мамы».
**12.55** «Мир наизнанку. Непал».
**14.05** «Утиные истории». Мультсериал.
**15.20** «Карлик Нос». Мультфильм.
**16.45 «Пиксели».** Х/ф.
**19.15** «Суперлото».
**21.00** «Орел и решка. Курортный сезон».
**22.00** «КЕНО».
**22.05 «Женский рай».** Сериал.
**23.05** «Иди сюда и танцуй».
**23.10** «ЛавЛавСаг».
**00.10** «Сыграй меня, если сможешь».

### Беларусь 3

**07.00** «Дабраранак».
**07.35, 12.20** «Беларуская кухня».
**08.05, 12.00, 19.55** «Навіны культуры».
**08.20, 12.15** «Гэты дзень».
**08.25** «Нацыянальны хіт-парад».
**09.20, 17.35** «Каралі эпізоду».
**10.00** «Навукаманія».
**10.25** Мультфільм.
**11.05, 16.40 «Тры талеры».** Серыял.
**12.50** «Наперад у мінулае».
**13.20** «Як мы жылі на вайне».
**13.45, 21.05 «Апостал».** Серыял.
**14.40, 21.05** «Хроніка Перамогі».
**15.00** "Славянскі базар у Віцебску – 2018".
**18.15 "Інспектар-разява".** М/ф.
**20.10** "Тэатр у дэталях". **"Радзіва Прудок".** Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.
**20.40** «Калыханка».
**22.20** «85-ы сезон». Фільм пра Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі.

### Беларусь 5

**07.10, 12.05, 16.45** «Спорт-микс».
**07.20** Футбол.
**09.10** Баскетбол.
**10.55** «Большой спорт».
**11.35** «Пит-стоп».
**12.15, 18.50** Теннис. WTA. Бухарест.
**14.20** Легкая атлетика.
**15.45** «Кикнадзе. Мнение».
**16.15** «Легенды мирового спорта».
**16.55** Футбол. Международный кубок чемпионов. «Ливерпуль» (Англия) – «Боруссия» (Германия).
**20.50** «Спорт-центр».
**21.00** «Время футбола».
**21.45** Смешанные единоборства. UFC.

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** «Наши новости».
**06.10, 07.10, 08.10** «Наше утро».
**09.10** «Контуры».
**10.00** «Жить здорово!».
**11.10** «Контрольная закупка».
**11.50** «Модный приговор».
**13.10 «Вольф Мессинг: видевший сквозь время».** Сериал.
**14.20** «Легенды цирка».
**15.00** «Давай поженимся!».
**16.20** «Мужское/женское».
**17.30, 18.20** «На самом деле».
**18.55** «Удача в придачу!» с «Евроопт». Дневник.
**19.00** «Пусть говорят».
**20.00** «Время».
**21.10 «Алхимик».** Сериал.
**23.10** «Белые ночи Санкт-Петербурга». Международный музыкальный фестиваль.
**01.15** «Ночные новости».

### РТР-Беларусь

**07.00** «Утро России».
**10.55** «Погода на неделю».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** «Вести».
**11.40** «Комната смеха».
**13.35** «Наше дело».
**13.50, 16.50, 19.50, 23.00** «Новости – Беларусь».
**14.35** «О самом главном».
**15.45** «60 минут».
**17.35** «Судьба человека».
**18.45** «Андрей Малахов. Прямой эфир».
**20.40, 23.10 «Деревенский роман».** Сериал.
**23.50 «Склифосовский».** Сериал.

### НТВ-Беларусь

**05.55** «Астропрогноз».
**06.00, 07.00, 08.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».
**06.10, 07.10** «Деловое утро НТВ».
**07.55, 08.05 «Возвращение Мухтара».** Сериал.
**08.50 «Супруги».** Сериал.
**09.40** «За гранью».
**10.25 «Дорожный патруль».** Сериал.
**12.05** «Жди меня».
**13.25, 16.30** «Обзор. Чрезвычайное происшествие».
**14.05 «ППС».** Сериал.
**17.05** «ДНК».
**18.10, 19.40 «Морские дьяволы».** Сериал.
**21.25 «Лесник. Своя земля».** Сериал.
**23.15** «ЧП.by».
**23.40 «Свидетели».** Сериал.

### СТВ

**05.30** «Большой город».
**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 часа».
**06.10, 20.15** «Минщина».
**06.20, 07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.40, 19.55, 23.00** «СТВ-спорт».
**09.05** «Добро пожаловаться!».
**09.25** «Неделя».
**10.40, 23.45** «Самые шокирующие гипотезы».
**11.30** Документальный проект.
**13.45** «Секретные территории».
**14.40, 22.00** «Смотреть всем!».
**15.00** «Эликсир молодости».
**15.50, 16.50 «Важняк. Игра навылет».** Сериал.
**20.05** «Столичные подробности».
**20.25 «Отцы».** Сериал.
**23.05** «Загадки человечества».
**00.30 «Схватка».** Х/ф.

### Мир

**06.10, 08.05 «Виктория».** Сериал.
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 00.00** «Новости».
**08.10, 10.05, 13.15, 05.40 «Оса».** Сериал.
**14.00, 04.45** «Дела семейные. Битва за будущее».
**15.00** «Дела семейные. Новые истории».
**16.15, 03.20** «Игра в кино».
**17.10, 18.05 «Возвращение Мухтара-2».** Сериал.
**19.25 «Марьина роща-2».** Сериал.
**22.05, 00.10 «Гидравлика».** Х/ф.
**00.20 «Жанна Д'Арк».** Х/ф.
**04.15** «Другой мир».

### Россия Культура

**06.30, 17.30** «Пленницы судьбы».
**07.05, 18.00 «В лесах и на горах».** Сериал.
**07.50** «Моя любовь – Россия!».
**08.20 «Последнее лето детства».** Сериал.
**09.30** «Писатели нашего детства».
**10.00, 15.00, 19.30, 23.30** «Новости культуры».
**10.15** «Наблюдатель».
**11.15 «Смерть под парусом».** Х/ф.
**13.30, 23.50 «Лунный камень».** Сериал.
**14.15** «Любовь в искусстве».
**15.10** «Пятое измерение».
**15.40** «Тайна величайшей гробницы Древнего Китая».
**17.15** «Мировые сокровища».
**18.45** «Больше, чем любовь».
**19.45** «Макан и орел».
**20.35** «Цвет времени».
**20.45** «Спокойной ночи, малыши!».
**20.55** «Абсолютный слух».
**21.35 «Следствие ведут знатоки».** Сериал.
**00.35** «Безумные танцы».
**01.40** «Укрощение коня. Пётр Клодт».
**02.25** «Жизнь замечательных идей».

### Белсат

**07.00, 21.00, 01.35** «Аб'ектыў».
**07.15** «Над Нёмнам».
**07.30, 21.25** «Беларускі клімат».
**08.00, 19.20** «Welcome ў Беларусь».
**08.20 «Дарэлы».** Серыял.
**09.10, 23.15 «Усё, што застанецца».** М/ф.
**10.35** «Аўтастопам па Беларусі».
**11.00, 18.25** «Невядомая Беларусь»: «Праклятыя і забытыя». Д/ф.
**11.30, 19.00** «Мова нанова»: «Войска».
**11.55** «Алфавіт». Д/ф.
**13.50** «Belsat Music LIVE».
**14.20 «Будучыня».** М/ф.
**16.00 «Ранча».** Серыял.
**16.45** "Гісторыя пад знакам "Пагоні".
**17.00** "Кулінарныя падарожжы Роберта Макловіча".
**17.25** "Спадарыня Тайсан". Д/ф.
**19.40** «Загадкі беларускай гісторыі»: «Горад Ліда, родам з Вялікага Княства».
**20.00, 00.45** «Вось так».
**20.15, 00.50** «Студыя «Белсат».
**21.50** «Сведкі»: «1988».
**22.05** «Размовы эксперта».
**22.25** «Священная война» расійцаў". Д/ф.

## ВТОРНИК, 24 ИЮЛЯ

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.30, 00.20** «Новости».
**07.05, 08.05** «Новости экономики».
**07.10, 08.10, 18.15, 00.00** «Зона Х».
**09.10, 22.10 «След».** Сериал.
**10.50, 12.10, 18.35, 19.20 «Научи меня жить».** Сериал.
**13.05** «Детский доктор».
**13.35 «Пагоня за тремя зайцами».** Сериал.
**14.25, 15.25 «Лестница в небеса».** Сериал.
**15.15, 18.00** «Новости региона».
**17.05 «Двойная сплошная».** Сериал.
**21.00** «Панорама».
**21.50** "Специальный репортаж".
**23.40** «Сфера интересов».
**00.40** «День спорта».

### Беларусь 2

**07.00** «Телеутро».
**09.00, 19.30** «Тэлебарометр».
**09.05, 19.35** «Слепая». Док.сериал.
**10.05, 17.35 «Команда».** Сериал.
**12.00** «Понаехали-2. Каникулы вслепую».
**13.00** «Свидание с будущим».
**13.55** «Орел и решка. Курортный сезон».
**14.50** «Кунг-фу панда: захватывающие легенды».
**15.10, 22.10 «Женский рай».** Сериал.
**16.15** «Ничего себе ньюз».
**16.20** «Пин_код».
**17.05** «Камень, ножницы, бумага».
**20.30** «Свадьба вслепую».
**22.05** «Спортлото 6 из 49», «КЕНО».
**23.10** «ЛавЛавСаг».
**00.05** «Не злите девочек».

### Беларусь 3

**07.00** «Дабраранак».
**07.35, 12.20** «Беларуская кухня».
**08.05, 12.00, 20.00** «Навіны культуры».
**08.20, 12.15, 20.15** «Гэты дзень».
**08.25, 18.35 «Маргарыта Назарава».** Серыял.
**09.20, 18.00** «Апошні дзень».
**09.55** "Камертон".
**10.25** Мультфільм.
**11.05, 16.40 "Тры талеры".** Серыял.
**12.50** «Беларусь як песня».
**13.15** «Як мы жылі на вайне».
**13.45, 21.05 «Апостал».** Серыял.
**14.40, 22.00** «Хроніка Перамогі».
**15.00** "Славянскі базар у Віцебску – 2018".
**17.35** «Гарады Беларусі».
**19.30** «Ваша лато», «Пяцёрачка».
**20.20** "На прыродзе".
**20.40** «Калыханка».
**22.25** «Майстры і куміры». Акцёр тэатра і кіно, народны артыст БССР Генадзь Гарбук.

### Беларусь 5

**07.10, 14.25, 17.45** «Спорт-микс».
**07.20** «Время футбола».
**08.00** «Легенды мирового спорта».
**08.30, 17.55** Легкая атлетика. Бриллиантовая лига.
**10.35** Баскетбол.
**12.20** Теннис. WTA. Бухарест. Финал.
**14.35, 22.25** Смешанные единоборства. UFC.
**16.40** «Фактор силы».
**17.10** «Игры «на вырост».
**19.55** «Спорт-кадр».
**20.25** Баскетбол. Чемпионат мира. Девушки. U-17. Беларусь--Франция (в перерыве – «Спорт-центр»).
**22.15** «Спорт-центр».

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** «Наши новости».
**06.10, 07.10, 08.10** «Наше утро».
**09.10** «Видели видео?».
**10.00** «Жить здорово!».
**11.10** «Контрольная закупка».
**11.50** «Модный приговор».
**13.10 «Вольф Мессинг: видевший сквозь время».** Сериал.
**14.05** «Легенды цирка».
**14.40** «Давай поженимся!».
**15.35, 16.20, 00.10** «Мужское/женское».
**16.55** «На самом деле».
**18.20** «Удача в придачу!» с «Евроопт». Дневник.
**19.05** «Пусть говорят».
**20.00** «Время».
**21.10 «Алхимик».** Сериал.
**23.10** «Василий Шукшин. Самородок».
**01.05** «Ночные новости».

### РТР-Беларусь

**07.00** «Утро России».
**10.00, 11.35, 20.40, 23.10 «Деревенский роман».** Сериал.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** «Вести».
**13.50, 16.50, 19.50, 23.00** «Новости – Беларусь».
**14.35** «О самом главном».
**15.45** «60 минут».
**17.35** «Судьба человека».
**18.45** «Андрей Малахов. Прямой эфир».
**23.50 «Склифосовский».** Сериал.

### НТВ-Беларусь

**05.55** «Астропрогноз».
**06.00, 07.00, 08.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».
**06.10, 07.10** «Деловое утро НТВ».
**07.55, 08.05 «Возвращение Мухтара».** Сериал.
**08.50 «Супруги».** Сериал.
**09.40, 23.15** «ЧП.by».
**10.25 «Дорожный патруль».** Сериал.
**12.05** «Суд присяжных».
**13.25, 16.30** «Обзор. Чрезвычайное происшествие».
**14.05 «ППС».** Сериал.
**17.05** «ДНК».
**18.10, 19.40 «Морские дьяволы».** Сериал.
**21.25 «Лесник. Своя земля».** Сериал.
**23.40 «Свидетели».** Сериал.

### СТВ

**05.30** «Центральный регион».
**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 часа».
**06.10, 20.15** «Минщина».
**06.20, 07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.40, 19.55, 23.00** «СТВ-спорт».
**09.00, 23.05** «Загадки человечества».
**10.40, 20.25 «Отцы».** Сериал.
**12.15** «Водить по-русски».
**12.40, 00.30** «Самые шокирующие гипотезы».
**13.45** «Секретные территории».
**14.40, 22.00** «Смотреть всем!».
**15.00** «Эликсир молодости».
**15.50, 16.50 «Важняк. Игра навылет».** Сериал.
**20.05** «Столичные подробности».

### Мир

**06.00, 05.30 «Оса».** Сериал.
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 00.00** «Новости».
**08.05, 10.05, 13.15 «Станица».** Сериал.
**14.00, 03.35** «Дела семейные. Битва за будущее».
**15.00, 04.30** «Дела семейные. Новые истории».
**16.15, 02.10** «Игра в кино».
**17.10, 18.05 «Возвращение Мухтара-2».** Сериал.
**19.20 «Марьина роща-2».** Сериал.
**22.05 «Жил-был дед».** Х/ф.
**00.10 «Гидравлика».** Х/ф.
**03.05** «Другой мир».

### Россия Культура

**06.30, 17.30** «Пленницы судьбы».
**07.05, 18.00 «В лесах и на горах».** Сериал.
**07.50** «Моя любовь – Россия!».
**08.20 «Приключения Тома Сойера и Гекльберри Финна».** Сериал.
**09.30** «Писатели нашего детства».
**10.00, 15.00, 19.30, 23.30** «Новости культуры».
**10.15** «Наблюдатель».
**11.15, 21.35 «Следствие ведут знатоки».** Сериал.
**13.05, 23.50 «Лунный камень».** Сериал.
**13.50, 02.05** «Жизнь замечательных идей».
**14.15, 20.55** «Абсолютный слух».
**15.10** «Пятое измерение».
**15.40** «Макан и орел».
**16.35, 00.35** Даниэль Баренбойм и Берлинская государственная капелла.
**17.20, 20.35** «Цвет времени».
**18.45** «Больше, чем любовь».
**19.45** «Кунг-фу и шаолиньские монахи».
**20.45** «Спокойной ночи, малыши!».
**01.25** «Контрасты и ритмы Александра Дайнеки».
**02.35** «Мировые сокровища».

### Белсат

**07.00, 12.05, 20.00, 00.15** «Вось так».
**07.10, 12.20, 20.15, 00.25** «Студыя «Белсат».
**07.50, 12.55, 21.00, 01.05** «Аб'ектыў».
**08.15, 13.20** «Размовы эксперта».
**08.35, 18.15** «Невядомая Беларусь»: «Праклятыя і забытыя». Д/ф.
**09.05** "Тэатр "і". Рэпартаж.
**09.25 «Час гонару».** Серыял.
**10.10, 18.50** «Мова нанова»: «Аўтагонкі».
**10.35** "Невядомая Беларусь": "Мінскае падполле. Героі і мярзотнікі". Д/ф.
**11.10, 17.25** «Священная война" расійцаў». Д/ф.
**13.40** «Кожны з нас»: «Жыццё пачалося, калі села ў інвалідны вазок».
**14.30 «Усё, што застанецца».** М/ф.
**16.00 «Ранча».** Серыял.
**16.45** «Гісторыя пад знакам "Пагоні".
**17.00** "Кулінарныя падарожжы Роберта Макловіча».
**19.10** «Вяскоўцы».
**19.40** «Загадкі беларускай гісторыі»: «Мсціслаў. Горад на крывіцка-радзімскай мяжы».
**21.25 «Глыбокая вада».** Серыял.
**22.15** «Рапарт»: «Смецце».
**22.45** «Даіш": не святая вайна». Д/ф.
**23.30 «Інстынкт».** Серыял.

## СРЕДА, 25 ИЮЛЯ

### Среда, 25 июля

Беларусь 1
**06.00, 07.20, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 00.20** «Новости».
**07.05, 08.05** «Новости экономики».
**07.10, 08.10, 18.15, 00.00** «Зона Х. Криминальные новости».
**09.10, 22.10 «След».** Сериал.
**10.45, 12.10, 18.35, 19.20 «Научи меня жить».** Сериал.
**13.05** «Детский доктор».
**13.35 «Погоня за тремя зайцами».** Сериал.
**14.25, 15.25, 17.05 «Двойная сплошная».** Сериал.
**15.15, 18.00** «Новости региона».
**21.00** «Панорама».
**21.50** «Специальный репортаж».
**23.40** «Сфера интересов».
**00.40** «День спорта».

### Беларусь 2

**07.00** «Телеутро».
**09.00, 19.30** «Тэлебарометр».
**09.05, 19.35** «Слепая». Док.сериал.
**10.05, 17.35 «Морозова».** Сериал.
**11.55** «Понаехали-2. Каникулы вслепую».
**12.55** «На ножах. Отели».
**14.00** «Орел и решка. Курортный сезон».
**14.50** «Кунг-фу панда: захватывающие легенды».
**15.15, 22.10 «Женский рай».** Сериал.
**16.15** «Ничего себе ньюз».
**16.20** «Пин_код».
**17.05** «Камень, ножницы, бумага».
**20.30** «Свадьба вслепую».
**22.05** «Спортлото 5 из 36», «КЕНО».
**23.10** «ЛавЛавСаг».
**00.05** «Не злите девочек».

### Беларусь 3

**07.00** «Дабраранак».
**07.35, 12.20, 20.10** «Беларуская кухня».
**08.05, 12.00, 19.55** «Навіны культуры».
**08.20, 12.15** «Гэты дзень».
**08.25, 18.35 «Маргарыта Назарава».** Серыял.
**09.20, 17.55** «Апошні дзень».
**10.00** "Майстэрня. Гісторыя аднаго мастака".
**10.25** Мультфільмы.
**11.05, 16.35 "Тры талеры".** Серыял.
**12.50** «Беларусь як песня».
**13.15** «Забароненая музыка СССР».
**13.45, 21.05 "Асобае падраздзяленне".** М/ф.
**14.45, 22.05** «Хроніка Перамогі».
**15.10** "Славянскі базар у Віцебску – 2018".
**17.30** «Гарады Беларусі».
**19.30** «Запіскі на палях».
**20.40** «Калыханка».
**22.30** «Святло далёкай зоркі». Памяці заслужанага архітэктара Беларусі Леаніда Левіна.
**22.55** "Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў". **"Сівая легенда".** Опера.

### Беларусь 5

**07.05, 11.50, 16.25** «Спорт-микс».
**07.15, 14.00** Футбол.
**09.05, 22.00** Баскетбол.
**10.50** «Легенды мирового спорта».
**11.20** «Спорт-кадр».
**12.00** Теннис. WTA. Нанчаг. Прямая трансляция.
**15.55** Тренировочный день.
**16.35** Смешанные единоборства. UFC.
**18.55** «Козел про футбол».
**19.15** «Слэм-данк».
**19.50** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. 2-й квалификационный раунд. Прямая трансляция (в перерыве – «Спорт-центр»).
**21.50** «Спорт-центр».

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** «Наши новости».
**06.10, 07.10, 08.10** «Наше утро».
**09.10** «Видели видео?».
**10.00** «Жить здорово!».
**11.10** «Контрольная закупка».
**11.50** «Модный приговор».
**13.10 «Вольф Мессинг: видевший сквозь время».** Сериал.
**14.20** «Легенды цирка».
**15.00** «Давай поженимся!».
**16.20, 00.10** «Мужское/женское».
**17.30, 18.20** «На самом деле».
**18.55** «Удача в придачу!» с «Евроопт». Дневник.
**19.00** «Пусть говорят».
**20.00** «Время».
**21.10 «Алхимик».** Сериал.
**23.10** «Владимир Высоцкий. «И, улыбаясь, мне ломали крылья».
**01.05** «Ночные новости».

### РТР-Беларусь

**07.00** «Утро России».
**10.00, 11.35, 20.40, 23.10 «Деревенский роман».** Сериал.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** «Вести».
**13.50, 16.50, 19.50, 23.00** «Новости – Беларусь».
**14.35** «О самом главном».
**15.45** «60 минут».
**17.35** «Судьба человека».
**18.45** «Андрей Малахов. Прямой эфир».
**23.50 «Склифосовский».** Сериал.

### НТВ-Беларусь

**05.55** «Астропрогноз».
**06.00, 07.00, 08.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».
**06.10, 07.10** «Деловое утро НТВ».
**07.55, 08.05 «Возвращение Мухтара».** Сериал.
**08.50 «Супруги».** Сериал.
**09.40, 23.15** «ЧП.by».
**10.25 «Дорожный патруль».** Сериал.
**12.05** «Суд присяжных».
**13.25, 16.30** «Обзор. Чрезвычайное происшествие».
**14.05 «ППС».** Сериал.
**17.05** «ДНК».
**18.10, 19.40 «Морские дьяволы».** Сериал.
**21.25 «Лесник. Своя земля».** Сериал.
**23.40 «Свидетели».** Сериал.

### СТВ

**05.30** «Минск и минчане».
**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 часа».
**06.10, 20.15** «Минщина».
**06.20, 07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.40, 19.55, 23.00** «СТВ-спорт».
**09.00, 23.05** «Загадки человечества».
**10.40, 20.25 «Отцы».** Сериал.
**12.15** «Водить по-русски».
**12.40, 00.30** «Самые шокирующие гипотезы».
**13.45** «Секретные территории».
**14.35, 21.55** «Смотреть всем!».
**14.55** Документальный проект.
**15.50, 16.50 «Важняк. Игра навылет».** Сериал.
**20.05** «Столичные подробности».

### Мир

**06.00 «Оса».** Сериал.
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 00.00** «Новости».
**08.05, 10.05, 13.15 «Станица».** Сериал.
**14.00, 04.05** «Дела семейные. Битва за будущее».
**15.00, 05.05** «Дела семейные. Новые истории».
**16.15, 02.40** «Игра в кино».
**17.10, 18.05 «Возвращение Мухтара-2».** Сериал.
**19.20 «Марьина роща-2».** Сериал.
**22.05, 00.10 «Дом».** Х/ф.
**00.45 «Жил-был дед».** Х/ф.
**03.35** «Другой мир».

### Россия Культура

**06.30** «Пленницы судьбы».
**07.05, 18.00 «В лесах и на горах».** Сериал.
**07.50** «Моя любовь – Россия!».
**08.20** «Приключения Тома Сойера и Гекльберри Финна». Сериал.
**09.30** «Писатели нашего детства».
**10.00, 15.00, 19.30, 23.30** «Новости культуры».
**10.15** «Наблюдатель».
**11.15, 21.40 «Следствие ведут знатоки».** Сериал.
**13.05, 23.50 «Лунный камень».** Сериал.
**13.50, 02.25** «Жизнь замечательных идей».
**14.15, 21.00** «Абсолютный слух».
**15.10** «Пятое измерение».
**15.40** «Кунг-фу и шаолиньские монахи».
**16.35, 00.35** Концерт Даниэля Баренбойма в Буэнос-Айресе.
**17.40, 23.10** «Мировые сокровища».
**18.45** «Больше, чем любовь».
**19.45** «При дворе Генриха VIII».
**20.45** «Спокойной ночи, малыши!».
**01.45** «Гений русского модерна. Федор Шехтель».

### Белсат

**07.00, 12.55, 20.00, 01.25** «Вось так».
**07.10, 13.05, 20.15, 01.35** «Студыя «Белсат».
**07.50, 13.45, 21.00, 02.15** «Аб'ектыў».
**08.15, 14.10** «Рапарт»: «Смецце».
**08.45, 16.45** «Гісторыя пад знакам «Пагоні».
**09.00, 14.40** «Вяскоўцы».
**09.25 «Час гонару».** Серыял.
**10.15 «Каханне ля поплаву».** Серыял.
**11.00, 18.00** «Невядомая Беларусь": "Сейбіт". Д/ф.
**11.55, 18.55** «Мова нанова»: «Мэбля».
**12.15, 17.25** «Дзеці Майдана». Д/ф.
**15.10 «Глыбокая вада».** Серыял.
**16.00 «Ранча».** Серыял.
**16.55** «Кулінарныя падарожжы Роберта Макловіча».
**19.20** «Эксперт».
**19.40** «Загадкі беларускай гісторыі»: «Паставы, якія мы выбіраем».
**21.25 «Пажарнікі».** Серыял.
**22.15** «Людскія справы»: «Праграма развіцця вёскі: школа сельскага бізнесу».
**22.45** «Паўночная Карэя: жыццё ў сакрэтнай краіне». Д/ф.
**23.30 «Тата».** М/ф.

## ЧЕТВЕРГ, 26 ИЮЛЯ

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 00.20** «Новости».
**07.05, 08.05** «Новости экономики».
**07.10, 08.10, 18.15, 00.00** «Зона Х. Криминальные новости».
**08.50** Слово митрополита Тадеуша Кондрусевича на день Святых Иоакима и Анны – родителей Пресвятой Девы Марии.
**09.10, 22.10 «След».** Сериал.
**10.50, 12.10, 18.35, 19.20 «Научи меня жить».** Сериал.
**13.05** «Детский доктор».
**13.35 «Погоня за тремя зайцами».** Сериал.
**14.30, 15.25, 17.05 «Двойная сплошная».** С.
**15.15, 18.00** «Новости региона».
**21.00** «Панорама».
**21.50** «Специальный репортаж».
**23.40** «Сфера интересов».
**00.40** «День спорта».

### Беларусь 2

**07.00** «Телеутро».
**09.00, 19.40** «Тэлебарометр».
**09.05, 19.45** «Слепая». Док.сериал.
**10.05, 17.40 «Морозова».** Сериал.
**12.00** «Понаехали-2. Каникулы вслепую».
**13.05** «ЖаннаПомоги».
**14.00** «Орел и решка. Курортный сезон».
**14.55** «Кунг-фу панда: захватывающие легенды».
**15.15, 22.05 «Женский рай».** Сериал.
**16.15** «Ничего себе ньюз».
**16.20** «Пин_код».
**17.05** «Камень, ножницы, бумага».
**20.45** «Меняю жену».
**22.00** «Спортлото 6 из 49», «КЕНО».
**23.05** «ЛавЛавСаг».
**00.05** «Не злите девочек».

### Беларусь 3

**07.00** «Дабраранак».
**07.35, 12.20, 20.10** «Беларуская кухня».
**08.05, 12.00, 19.55** «Навіны культуры».
**08.20, 12.15** «Гэты дзень».
**08.25, 18.35 «Маргарыта Назарава».** С.
**09.20, 17.55** «Апошні дзень».
**10.00** "Майстэрня. Гісторыя аднаго мастака".
**10.30** Мультфільмы.
**11.05, 16.35 "Тры талеры".** Серыял.
**12.50** «Беларусь як песня».
**13.15** «Забароненая музыка СССР».
**13.40, 21.05 "Тэгеран-43".** М/ф.
**15.00, 22.20** «Хроніка Перамогі».
**15.25** "Славянскі базар у Віцебску – 2018".
**17.30** «Гарады Беларусі».
**19.30** «Запіскі на палях".
**20.40** «Калыханка».
**22.45** «Тэатр у дэталях». **«Офіс».** Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.
**23.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці музыканта, артыста, спевака Анатоля Шчарбакова.

### Беларусь 5

**06.00, 09.00** Футбол.
**08.00** «Слэм-данк».
**08.30** «Легенды мирового спорта».
**11.00** Теннис. WTA. Москва. Нанчаг. Прямая трансляция.
**14.30** Футбол. Международный кубок чемпионов. «Атлетико» (Испания) – «Арсенал» (Англия). Прямая трансляция.
**16.30, 18.35** Футбол.
**20.40** Футбол. Лига Европы УЕФА. «Динамо» (Брест) – «Атромитос» (Греция) (в перерыве – «Спорт-центр»).
**22.40** «Спорт-микс».
**22.50** Футбол. Международный кубок чемпионов. «Манчестер Сити» (Англия) – «Ливерпуль» (Англия).

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** «Наши новости».
**06.10, 07.10, 08.10** «Наше утро».
**09.10** «Видели видео?».
**10.00** «Жить здорово!».
**11.10** «Контрольная закупка».
**11.50** «Модный приговор».
**13.10 «Вольф Мессинг: видевший сквозь время».** Сериал.
**14.20** «Легенды цирка».
**15.00** «Давай поженимся!».
**16.20, 00.10** «Мужское/Женское».
**17.30, 18.20** «На самом деле».
**18.55** «Удача в придачу!» с «Евроопт».
**19.00** «Пусть говорят».
**20.00** «Время».
**21.10 «Адхимик».** Сериал.
**23.10** «Фаина Раневская. Красота – страшная сила».
**01.05** «Ночные новости».

### РТР-Беларусь

**07.00** «Утро России».
**10.00, 11.35, 20.40, 23.10 «Деревенский роман».** Сериал.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** «Вести».
**13.50, 16.50, 19.50, 23.00** «Новости – Беларусь».
**14.35** «О самом главном».
**15.45** «60 минут».
**17.35** «Судьба человека».
**18.45** «Андрей Малахов. Прямой эфир».
**23.50 «Склифосовский. Реанимация».** С.

### НТВ-Беларусь

**05.55** «Астропрогноз».
**06.00, 07.00, 08.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».
**06.10, 07.10** «Деловое утро НТВ».
**07.55, 08.05 «Возвращение Мухтара».** С.
**08.50 «Супруги».** Сериал.
**09.40, 23.15** «ЧП.by».
**10.25 «Дорожный патруль».** Сериал.
**12.05** «Суд присяжных».
**13.25, 16.30** «Обзор. Чрезвычайное происшествие».
**14.05 «ППС».** Сериал.
**17.05** «ДНК».
**18.10, 19.40 «Морские дьяволы».** Сериал.
**21.25 «Лесник. Своя земля».** Сериал.
**23.40 «Свидетели».** Сериал.

### СТВ

**05.30** «Всем по котику».
**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 часа».
**06.10, 20.15** «Минщина».
**06.20, 07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.40, 19.55, 23.00** «СТВ-спорт».
**09.00, 23.05** «Загадки человечества».
**10.40, 20.25 «Отцы».** Сериал.
**12.10** «Водить по-русски».
**12.40, 00.30** «Самые шокирующие гипотезы».
**13.45** «Секретные территории».
**14.35, 22.00** «Смотреть всем!».
**14.55** «Документальный проект».
**15.50, 16.50 «Важняк. Игра навылет».** С.
**20.05** «Столичные подробности».

### Мир

**06.00, 05.30 «Оса».** Сериал.
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 00.00** «Новости».
**08.05, 10.05, 13.15, 19.20 «Марьина роща-2».** Сериал.
**13.15, 19.20 «Марьина роща-2».** Сериал.
**14.00, 03.35** «Дела семейные. Битва за будущее».
**15.00, 04.35** «Дела семейные. Новые истории».
**16.15, 02.10** «Игра в кино».
**17.10, 18.05 «Возвращение Мухтара-2».** Сериал.
**21.10 «Улыбка Бога, или Чисто одесская история».** Х/ф.
**23.30, 00.10 «Дом».** Х/ф.
**03.05** «Другой мир».

### Россия Культура

**06.30** «Пленницы судьбы».
**07.05, 18.00 «В лесах и на горах».** Сериал.
**07.50** «Моя любовь – Россия!».
**08.20 «Приключения Тома Сойера и Гекльберри Финна».** Сериал.
**09.30** «Писатели нашего детства».
**10.00, 15.00, 19.30, 23.30** «Новости культуры».
**10.15** «Наблюдатель».
**11.15, 21.40 «Следствие ведут знатоки».** Сериал.
**12.50, 23.10, 02.40** «Мировые сокровища».
**13.05, 23.50 «Лунный камень».** Сериал.
**13.50, 02.15** «Жизнь замечательных идей».
**14.15, 21.00** «Абсолютный слух».
**15.10** «Пятое измерение».
**15.40** «При дворе Генриха VIII».
**16.35, 00.35** Концерт Даниэля Баренбойма в Буэнос-Айресе.
**18.45** «Больше, чем любовь».
**19.45** «Была ли Клеопатра убийцей?».
**20.45** «Спокойной ночи, малыши!».
**01.35** «Евгений Вучетич. Эпоха в камне».

### Белсат

**07.00, 12.05, 20.00, 01.00** «Вось так».
**07.10, 12.15, 20.15, 01.10** «Студыя «Белсат».
**07.50, 12.55, 21.00, 01.50** «Аб'ектыў».
**08.15, 13.35** «Людскія справы»: «Праграмы развіцця вёскі: школа сельскага бізнесу».
**08.45** «Эксперт».
**09.05** «Прага вышыні». Рэпартаж.
**09.25 «Час гонару».** Серыял.
**10.10 «Пажарнікі».** Серыял.
**10.55, 18.55** «Мова нанова»: «Якуб Колас».
**11.15, 17.25** «Паўночная Карэя: жыццё ў сакрэтнай краіне». Д/ф.
**13.20** «Загадкі беларускай гісторыі»: «Паставы, якія мы выбіраем».
**14.05 «Тата».** М/ф.
**16.00 «Ранча».** Серыял.
**16.50** «Гісторыя пад знакам «Пагоні».
**17.00** «Кулінарныя падарожжы Роберта Макловіча».
**18.15** "Дарога". Д/ф.
**19.10** «Прыват»: «Ад Нёмна да Ніла, або Калі не сядзіцца дома».
**19.40** «Загадкі беларускай гісторыі»: «7 лістапада. Дзень свята ці знак бяды?».
**21.25 «Бода».** Серыял.
**22.25** «Кожны з нас»: «Суседскі сабака адкусіў мне палец».
**23.15** «Жонкі дэспатаў». Дак.серыял.
**00.05 «Пітбуль».** Серыял.

